
Тэматычныя вёскі→3


# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960 NR INDEKSU 366714



Каплічка ў Кнарыдах→9


http://niva.bialystok.pl
redakcja@niva.bialystok.pl

№ 31 (3194) Год LXII | Беласток, 30 ліпеня 2017 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


# «Чаму так кепска, калі так добра?!»

**15-16 ліпеня ў Менску прайшоў VII З'езд беларусаў свету, арганізаваны Міжнародным грамадскім аб'яднаннем «Згуртаванне беларусаў свету „Бацькаўшчына"». У ім прынялі ўдзел больш за 300 дэлегатаў з больш чым 20 краін. Асноўнай тэмай з'езда была стратэгія развіцця беларускай нацыі і дзяржаўнасці. Дэлегаты сходу былі занепакоеныя станам беларускай мовы і парушэннямі правоў чалавека на Беларусі. Удзельнікі выступалі таксама з заклікамі да ўлад дзяржавы. Усё-такі застаецца пытанне, у якой ступені чарговы з'езд (першы адбыўся ў 1993 годзе), можа рэальна паўплываць на цяперашнюю сітуацыю? І як усе прынятыя рашэнні ажыццявіць?**



Алег Латышонак


Алена Макоўская і Ніна Шыдлоўская

**«Зроблены першыя крокі»**

VII З'езд беларусаў свету адкрыла кіраўніцтва «Бацькаўшчыны» — Ніна Шыдлоўская і, абраная ў час з'езда кіраўніком Алена Макоўская. З прывітальнымі прамовамі выступілі, між іншым, міністр замежных спраў Уладзімір Макей, намесніца дырэктара Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва Наталля Гардзіенка, доктар гістарычных навук, старшыня Беларуска гістарычнага таварыства Алег Латышонак.

— Кожны з нас, на сваім месцы можа многа зрабіць дзеля здабыцця нашай галоўнай мэты: не толькі захавання, але і ўмацавання незалежнасці нашай дзяржавы. Гэта патрабуе ад нас, грамадзян Беларусі і беларусаў замежжа аб'яднацца, — сказаў міністр замежных спраў Уладзімір Макей. — А мы можам зрабіць многа, калі ўзяць, напрыклад, культуру. Мы павінны развіваць нашу мову, мы павінны развіваць нашы традыцыі, мы павінны звярнуць большую ўвагу на вяртанне нашых культурных каштоўнасцей. Што тычыцца эканомікі, то таксама можам многа зрабіць дзеля развіцця эканамічнага супрацоўніцтва паміж Беларуссю і тымі краінамі, дзе вы зараз знаходзіцеся. У палітычнай сферы мы таксама можам многа зрабіць — аб'ектыўна расказаць аб тым, што зараз адбываецца на Беларусі і ў нашым рэгіёне.

У 2009 годзе на з'ездзе «Бацькаўшчыны» прамаўляў міністр культуры Павел Латушка, аднак ніколі раней на з'ездзе не было такой урадавай дэлегацыі як сёлета. Менавіта ў гэтым кіраўніцтва «Бацькаўшчыны» прыкмячае «гістарычны шанц».

— Мне падаецца, што зараз вельмі добры ў гістарычным плане час, што Беларусь хоча быць канкурэнтаздольнай, выйсці да іншага свету. Мы разумеем, што калі мы будзем закрытымі, для нас гэта будзе складаны, доўгі час, мы проста будзем вымушаны на пэўную стагнацыю, — адзначыла кіраўнік ЗБС «Бацькаўшчына» Алена Макоўская. — Мне вельмі хочацца верыць, што гэта ўсведамляюць тыя людзі, якія прымаюць рашэнні ў нашай краіне. Таму для нас гэта проста гістарычны шанц. Калі мы яго ўпусцім, будзем адставаць ад усяго свету.

**«Патрыёты — гэта не тыя, хто пагаджаецца з усім!»**

Словы міністра замежных спраў не пераканалі часткі дэлегатаў. У час пасяджэння голас узяла Валянціна Шаўчэнка са Згуртавання беларусаў Канады.

— Згуртаванне беларусаў Канады — адна з найстарэйшых арганізацый беларусаў замежжа. За гэтыя гады рабілася шмат, — адзначыла ў сваёй прамове Валянціна Шаўчэнка. — Ёсць чым ганарыцца. Цяжка пералічыць тое, што робіцца і, спадзяюся, будзе рабіцца беларусамі Канады. Змяняліся пакаленні, але ж галоўная ідэя — падтрыманне беларусамі Канады ідэалаў 25 Сакавіка — засталася нязменнай. Жыве Беларусь!

Нягледзячы на палымяная прамовы міністра замежных спраў Беларусі, Валянціна Шаўчэнка выказала незадаволенасць актуальнай сітуацыяй на Беларусі і зазначыла, што супрацоўніцтва беларусаў Канады з беларускай дзяржавай на сёння немагчымае.

— Не бачым магчымасці ўтрымліваць стасункі з дзяржаўнымі ўстановамі і органамі. На жаль, як нам бачыцца з замежжа, не назіраецца ніякага руху ў бок дэмакратыі, не існуюць механізмы дэмакратычнай змены ўлады і пераемнасці палітычнай эліты, — сказала Валянціна Шаўчэнка. — Стан беларускай мовы, якая мусіць быць дзяржаўнай у поўным сэнсе гэтага слова, вельмі сумны. Амаль што зусім няма беларускамоўнай школы, дзіцячых садкоў. Бачыце, мы ўсе кажам аб адным і тым жа, значыць набалела, значыць баліць. (...) У такіх умовах асноўная і адзіная форма ўзаемадзеянняў Згуртавання беларусаў Канады і Беларусі сёння — гэта падтрымка грамадскіх арганізацый, якія працуюць на развіццё беларускай мовы і культуры, акцыя салідарнасці з тымі, хто абсалютна легітымна патрабуе змен, таму што патрыёты — гэта не тыя, хто пагаджаецца з усім, што адбываецца ў краіне, а тыя, хто хоча змен да лепшага. У каго баліць за родную мову, культуру і гісторыю.

Міністр адгукнуўся на словы дэлегаткі з Канады. Сваёй прамовай упэўніў у перакананні, што прагрэс на Беларусі можна заўважыць, але толькі гледзячы на цэлыя дэкады:

— Вы памятаеце, што раней словы «дэмакратыя» і «правы чалавека» многія баяліся тут вымаўляць, а сёння зроблены першыя крокі ў накірунку развіцця дыялогу паміж дзяржавай і грамадствам. І гэта вельмі важна. Можа гэтыя змены і не бачныя, але яны ёсць.

**«Чаму так кепска, калі так добра?!»**

У час з'езду важнае пытанне адносна віз закранула таксама прафесар Лена Глагоўская, якая цэлую навуковую дзейнасць прысвяціла пытанням польска-беларускіх суадносін і беларускай меншасці ў Польшчы, адначасова адкрываючы для нас усіх асобы, якія мелі ўплыў на фармаванне нацыі. Візавыя праблемы, з якімі змагаюцца прадстаўнікі беларускай меншасці, гэта сур'ёзная перашкода ў супрацоўніцтве з дыяспарамі, якую гарантаваў міністр Макей.

— Я на з'ездзе сёмы раз. Я пытаю: чаму так кепска, калі так добра?! Я доктар гуманітарных навук па спецыяльнасці палітаталогія і міжнародныя адносіны. Чаму мне, як даследчыку, на працягу апошняга года трэба было чатыры разы купляць візы на чатыры ўезды на Беларусь на агульную суму 120 еўра. Пытанне да Міністэрства замежных спраў: які я вораг? Які я нелаяльны грамадзянін Польшчы ў адносінах да Беларусі? (...) Прабачце, не дзеля таго напісала больш за 700 артыкулаў на працягу трыццаці гадоў па польска-беларускіх адносінах, па беларускай культуры, адкрыла шмат постацей. (...) Гэта вельмі набалелая сітуацыя, — сказала Лена Глагоўская.

**«У нас нявырашаны элементарныя пытанні»**

— Не хочацца ніколі нікога пакрыўдзіць. Гэта вялікі плюс — многія з нас, асабліва замежныя беларусы, прыязджаюць раз на чатыры гады дзякуючы «Бацькаўшчыне», бачым адзін аднаго. Жывыя кантакты, яны можа важнейшыя, чым нейкія размовы ў зале пасяджэнняў. Такіх форумаў мала, а цяпер, у эпоху глабалізацыі ўвогуле выходзяць з моды. У нас праз рэжымы прытармазілася агульнае жыццё. Мы мусім яшчэ карыстацца тымі метадамі, якія мы даўно перaадолелі. Калі б у нас была іншая сістэма кіравання дзяржавай, іншая сістэма ў бізнесе, тады мы абмяркоўвалі б пытанні як прыцягнуць бізнесменаў для вырашэння тых, ці іншых глабальных праблем, але ў нас нявырашаныя элементарныя пытанні: як тут універсітэт з беларускай мовай заснаваць? Як пашырыць сетку школ? (...) Гэтыя пытанні ў іншых народаў не стаяць на парадку дня. Таму, на жаль, з аднаго боку ёсць пазітыўнае ўражанне, што мы бачымся, што мы нешта абмяркоўваем і нейкія моманты знаходзім, але з другога боку ўвесь час такое ўлажэнне дэжаву, што мы адно і тое гаворым. Колькі раз на мінулых з'ездах пісалася ў рэзалюцыях, што трэба універсітэты з беларускай мовай... Рашэння, акрамя дэкларацыі, не знаходзіцца. Тут усе ў захапленні ад таго, што міністр замежных спраў нешта там добрае сказаў, але па сутнасці ён нічога не сказаў, бо нічога і не памянялася. Заўтра не пабольшыцца колькасць беларускіх школ і іншыя праблемы не вырашацца ад таго, што тут міністр нешта сказаў. Ён мусіў спадабацца публіцы. Таму такое дваякае ўлажэнне: з аднаго боку не магу сказаць, што тут негатыў, але з другога боку занадта шмат чакаць ад гэтага з'езда нельга — падзяліўся з «Нівай» сваімі рэфлексіямі грамадскі дзеяч і знакаміты перакладчык Лявон Баршчэўскі.

**«Працаваць на паглыбленне нацыянальнай ідэнтычнасці»**

VII З'езд беларусаў свету пераабраў кіраўніцтва ЗБС «Бацькаўшчына». Алена Макоўская і Ніна Шыдлоўская надалей сталі адпаведна кіраўніком і старшынёй савета Міжнароднага грамадскага аб'яднання беларусаў свету «Бацькаўшчына». Планы на наступныя чатыры гады — гэта перш за ўсё ўмацаванне кантактаў з беларусамі замежжа.

— Я думаю, што гэта праца на далейшае ўмацаванне нацыянальнай ідэнтычнасці ў кампаніі „Будзьма беларусамі", — адзначыла Алена Макоўская. — Пошук новых метадаў, ісці ў нагу з часам і шукаць гэтыя эфектыўныя новыя метады дзеля таго, каб працаваць на паглыбленне нацыянальнай ідэнтычнасці — гэта першае. А другое, гэта пашырэнне супрацоўніцтва з беларускім замежжам. Мы будзем ставіць пытанне і пра „карту беларуса", і пра прыняцце ўсіх тых важных прапаноў, якія былі агучаныя ў выніковых дакументах з'езда.

Тэкст і фота **Уршулі ШУБЗДЫ**





# Суседскія гавэнды

Зараз амаль кожны, хто цікавіўся гэтай так званай суседскай падзеяй, задае сабе толькі адно пытанне: „А што гэта такое было?”. А вось да таго як усё закончылася, гэтая падзея называлася сустрэчай Парашэнкі і Лукашэнкі. Увогуле то яна насіла вельмі высокі статус афіцыйнай сустрэчы кіраўнікоў Беларусі і Украіны. Але ў прэсе гаворка неяк усё больш ішла пра персаналіі самых кіраўнікоў, чым пра краіны, якія яны прадстаўляюць.

Дык што ж увогуле адбылося насамрэч? Што мы пра гэта ведаем? Ну, сустрэліся кіраўнікі дзвюх суседскіх краін, адна з якіх, Украіна, сёння рыхтуецца да мажлівай вайны з трэцяй сваёй суседкай Расіяй, называючы тую краінай-акупантам за анексію Крыма і сцвярджае, што Расія ўжо мае прамое дачыненне да гібрыднай вайны на ўсходзе Украіны. Ну а другая, Беларусь, з гэтай суседкай Расіяй праводзіць сумесныя вайсковыя вучэнні і ўваходзіць у адзіную саюзную дзяржаву, і з ёй жа ў Саюз Незалежных Дзяржаў, і з ёй жа ў адзіную мытную прастору, і з ёй жа ў нейкі вайсковы блок, і ў яшчэ безліч нейкіх дамоўленасцей, на згадванне якіх паперы не хопіць.

Здавалася б, пра што могуць гаварыць гэтыя людзі з такімі супрацьлеглымі інтарэсамі і поглядамі? Што ў іх такога агульнага, што патрабуе персанальнай размовы тэт-а-тэт? А аказваецца, пагаварыць знайшлі пра што. Сцвярджаецца, што яны між іншым і пра Чарнобыль пагаварылі, і пра эканоміку... Многіх прыемна ўразіла, што яны не забыліся пра Чарнобыль. А яшчэ для большай колькасці людзей стала адкрыццём тое, што, аказваецца, у гэтых краін ёсць эканоміка. Ну што тут скажаш. Тут як гаворыцца: „Дабрашчасны, хто верыць”.

Дык што ж яны хацелі ад гэтай сустрэчы? Украінскі кіраўнік хіба шмат раіўся са сваімі хаўруснікамі пра тое, што можна ад гэтага спаткання чакаць і атрымаць. Дарадчыкаў зараз ва Украіны багата, а як сцвярджае народная мудрасць, у „сямі нянек дзіця з пабітым носам”. Таму хіба што лепш было б параіцца з адным Міхаілам Саакашвілі, які зараз акурат ва Украіне знаходзіцца, бо ён на гэтыя граблі ўжо наступаў і мае што параіць. Баючыся, каб Беларусь не прызнала пасля руска-грузінскай вайны адарваных ад Грузіі тэрыторый незалежнымі краінамі, ён таксама рабіў пэўныя рэверансы ў бок беларускага кіраўніка. А ў гэты час Расія рыхтавалася да грузінскіх выбараў. Добра рыхтавалася. А беларуска-грузінскія перамовы маглі цалкам упісваца ў гэты план як частка шматхадовага працэсу. Беларусь то не прызнала адарваных ад Грузіі зямель незалежнымі. Але вось Саакашвілі больш не праводзіць пачатых рэформ у сябе на радзіме. Ну а тыя землі, як і ўкраінскі Крым, Беларусь і так не прызнала б. Які сэнс. Няўжо гэтае прызнанне ці непрызнанне нешта памяняла б.

Няма сумневу, што і да ўкраінскіх выбараў Расія рыхтуецца не менш дасканала і шматхадова. А на сённяшні момант дык выглядае так, што толькі яна адна пакуль што і рыхтуецца да тых украінскіх выбараў. А яе хаўруснікі верай і праўдай ёй дапамагаюць. Здаецца, кіраўнік Украіны на гэтую тэму не пагаварыў з галоўным хаўруснікам Крамля. Ну і сапраўды можа эканоміка важней. Асабліва для тых, хто верыць, што яе мае. Тут, як кажуць зноў жа ў народзе, „чым бы дзіця не цешылася, абы не плакала”.

Беларускі кіраўнік стольких замежных дарадчыкаў, як яго ўкраінскі калега, не мае. У яго выбар невялікі. Раіцца або слухацца, тут кожны хай выбярэ для сябе больш прывабную фармулёўку, трэба толькі аднаго дарадчыка. Затое прыехаў ён з вялікім эскортам і добрай аховай, як і належыць галоўнаму хаўрусніку і сябру Масквы. Ды і хіба ведаў, чаго прыехаў. Шкада вось, што больш ніхто таго не ведае.

Але ўсё адно галоўнай зоркай сустрэчы стала звычайная ўкраінская дзяўчына, якая напісала на аголеных грудзях „Жыве Беларусь!!!” і паўтарыла гэты лозунг уголас. Пішуць, што яе цяпер будуць судзіць. У Беларусі за лозунг „Жыве Беларусь!!!” таксама ўзнагароды не выдаюць. Пакуль што, не выдаюць. Ну, а як моцна пакараюць, ці зусім не пакараюць тую дзяўчыну, даведаемся пазней. Адно ясна, што пра яе будуць згадваць нашмат часцей, чым пра тыя гавэнды кіраўнікоў суседскіх краін на вельмі высокім узроўні.

**Віктар САЗОНАЎ**

# Змены і сцэны

Змены з'яўляюцца няўмольным працэсам. Сцены, равы, платы, бастыёны, вежы гэта наіўная абарона ад іх. Сцены-муры прымаюць розную форму. Напрыклад, юрыдычную. У апошні час партыя быццам бы Права і справядлівасці ставіць іх усё больш і больш. Спашлюся тут на гісторыю. У старажытнай Кірэнаіцы прававы мур, раздзяляючы мясцовае насельніцтва на чатыры катэгорыі: грамадзян, сялян, чужых і габрэяў, стаў прычынай крывавага паўстання апошніх, дарэчы, не адзінага. У спалучэнні з рэлігійнымі аспектамі гэта выклікала грамадскія хваляванні. Самыя крывавыя ўспыхнулі ў 115 г. н.э. падчас кіравання Траяна, успамінаў гісторык Касій Дыён: «Пад кіраўніцтвам нейкага Андрэаса габрэі выразалі рымлян і грэкаў, зжэрлі іх целы, перапаясаліся кішкамі, нацерліся крывёй і нацягнулі на сябе іх скуры. Некалькіх рымлян распалавінілі ўздоўж ад галавы да пахвіны. Іншыя былі кінутыя дзікім звярам, яшчэ іншыя былі вымушаны змагацца як гладыятары». Шакіруючы лік ахвяр паўстання ў Кірэнаіцы налічваў 220 тысяч рымлян і грэкаў. Падобную гекатомбу ахвяр пацярпелі ў той жа час Егіпет і Кіпр. Яна паглынула жыццё 240 тысяч людзей. Дыён нічога не згадвае пра зверствы рымлян супраць габрэйскай дыяспары. Пра дзесяцігадовую селектыўную антыяўрэйскую бойню. Пра тысячы людзей, выкінутых драпежным амфітэатральным бестыям для задавальнення рымскага натоўпу, пра абыякава раскрыжаваных, лік якіх дасягнуў дзясяткаў тысяч. Аб згвалтаваных дзецях і распоратых жыўцом жыватах маладых жанчын. Жорсткасць была ўзаемная. І нязмыўная ў памяці будучых пакаленняў. Самыя высокія муры не абараняюць нікога перад жывой памяццю.

Відавочна, змены ўносяць... змены. Змены турбуюць, разбураюць наш унутраны спакой, тым больш, што дэканструююць рэальнасць. Трэба да яе адаптавацца, набываць новы вопыт, і вучыцца, метадам спроб і памылак, прывыкаць да яе. Мы давяраем таму, што ведаем, нават калі б гэта было непрыязным. «Вораг? Вораг. Але свой!» — казаў пра свайго суседа Каргуля Паўляк з несмяротнага фільма «Усе свае». Палохаемся новага, чужога, невядомага. Менавіта таму будуем у свядомасці муры прадузятасцей. І для іх умацавання падымаем яшчэ іх матэрыяльныя эманацыі. Чым вышэйшыя, тым мацнейшыя, чым больш мы адчуваем сябе бездапаможнымі перад тварам змен, якія адбываюцца або чакаюцца. Толькі што засталося ад Вялікай кітайскай сцяны? Вялізны рубец, які, як кажуць, відаць нават з космасу. Сёння гэта турыстычная славутасць інкруставаная вострымі адчуваннямі. Цягляныя сцены спайваюць сотні тысяч, калі не мільёны шкілетаў іх будаўнікоў, аб чым інфармуюць наведвальнікаў усхваляваныя гіды. Так ці інакш, ніхто не будзе думаць, што намаганні мільёнаў людзей былі дарэмнымі. Вялікая сцяна, якая павінна была абараніць культуру і цывілізацыю Кітая ад гвалту некантраляваных змен, у той час зачыніла яе ў герметычным кокане разляніўленай самазаспакоенасці. І ўсё ж не перашкодзіла ўварванню мангольскіх качэўнікаў. Варта тут нагадаць, што гвалтоўнае зліццё гэтых дзвюх якасцей, качавой і аселай, «варварскай» і «цывілізаванай», стала «рухавіком» культурнага і цывілізацыйнага прагрэсу Сярэдняга царства. У нейкай ступені ўсяго Свету, паколькі прынцып сазлучаных сасудаў, выраўноўвання вадкасці, які мы ведаем з фізікі, адносіцца і да гістарычных, і натуральных падзей. Разгледзім, вось, гістарычныя працэсы. Канвектыўны рух вадкасцей у закрытым кантэйнеры нязменны — гарачае падымаецца ўверх, халоднае апускаецца на дно. Адно змяняе другое, у руху. Калісь «гарачае» варварства Рыма штурхнула ўніз застылую ў культурнай сытасці Грэцыю на дно гісторыі. Але з узыходзячага і сыходзячага руху гэтых дзвюх чужых культур, з гэтай гістарычнай змены, «устала» новая цывілізацыйная якасць — культурная Імперыя з рысамі рымскай і грэцкай адначасова. Гэтая, у сваю чаргу, закладвае падмурак сучаснай цывілізацыі. На жаль, яна таксама «халадзее». Магчыма, мы сёння — паддоследныя трусы канвекцыі. Энергія заходняй культуры, культуры, з якой мы выраслі, чэрпаючая з традыцый хрысціянства і антычнасці, пусцее. Ідзе новае. Ідуць змены. Уся закавычка ў тым, што тое, што аказваецца каштоўным «пасля», «цяпер» баліць. У першую чаргу баліць на індывідуальным узроўні. Пакутуе кожны, трапляючы ў вір змен. Сцены паміж той ці іншай ідэалогіяй не спыняць змен.

**Міраслаў ГРЫКА**



Сваімі вачыма

# Непарушныя вароты

З пэўным хваляваннем выязджаў я на VII З'езд беларусаў свету, ладжаны згуртаваннем «Бацькаўшчына» 15-16 ліпеня ў сталічным Мінску. «Ехаць ці не ехаць?» — такое пытанне заўсёды спадарожнічае многім беларусам з-па-за межаў Беларусі перад чарговымі з'ездамі ў эпосе Лукашэнкі. Асабліва, што ў той жа самы тэрмін праходзіў у нас ужо XXVIII Фестываль Музыкі маладой Беларусі «Басовішча», якога ўзнікненне і існаванне — найлепшы доказ жывучасці ідэі духоўнай і бязмежнай Бацькаўшчыны. Усё на прыродзе і ў свабодзе, чаго не скажаш пра тое, што дзеецца за мяжой Гарадоцкай гміны.

Абсурдная, незразумелая, але паслядоўная ў сваёй непрыязнасці візавая палітыка Міністэрства замежных спраў Рэспублікі Беларусь да беларусаў Польшчы надалей з'яўляецца фактарам штодзённасці. Пакаранне штрафам перад з'ездам нашага карэспандэнта ў Магілёве быццам за працу за брак акрэдытацыі — чарговы здзек напярэдадні сустрэчы. А журналістам усіх беларускіх медыяў у Польшчы выдаць гадавыя, бясплатныя візы і акрэдытацыі ніхто не то што зрабіць, але і слухаць не хоча. Адзін той жа самы і адвечны адказ: «Вы ж самі разумееце». Менавіта не разумеем і не хочам быць заложнікамі палітыкі падзелу на сваіх і не сваіх беларусаў. І менавіта толькі з гэтым адным пытаннем звярнуўся я ў адкрытай дыскусіі да прадстаўніка МЗСу. На жаль, не было ў яго паўнамоцтваў, каб адказаць на ўзнятую справу. Таму нават прынятыя раней дакументы пра беларусаў замежжа з'яўляюцца фактычна яшчэ адным інструментам палітызаванасці гэтага пытання. Як прамаўляе досвед і народная мудрасць, хутчэй мы, мабыць, пабачым сваё вуха без люстэрка, чымсьці дачакаемся адкрытасці беларускай дзяржавы.

Перасякаючы мяжу на пераходзе Баброўнікі — Бераставіца вокамгненна мы зразумелі, што ў краіне Беларусь усё без перамен. Тое ж самае адбывалася і за папярэднімі заездамі на Бацькаўшчыну. Дзве з паловай гадзіны мытніка з пагранперахода дэталёва знаёміліся з нашай газетай, кніжкай «Бежанства» і вершамі Андрэя Сцепанюка, які падарожнічаў разам з намі. Пасля «канслліюму» з кіраўніцтвам мытні і згоды на далейшую паездку адзін з начальнікаў паставіў для нас усіх сакраментальнае пытанне: «А ў якім годзе Вы пераехалі ў Польшчу?». Нашы тлумачэнні пра тое, што мы — аўтахтоны, слухаў ён з нейкай недаверлівасцю і няўпэўненасцю. Відаць, не навучылі яго, што па-за межамі Беларусі жыве тры-чатыры мільёны беларусаў, а сярод іх мы не дыяспара, а беларуская нацыянальная меншасць у Польшчы. Раз плюнуць з Бераставіцы ў Баброўнікі, дзе па абодвух баках мяжы жывуць тыя ж самыя беларусы, часта і сямейнікі. Уяўляю сабе, з якім болем і нервамі перасякае гэты пагранпераход прафесар Лена Глагоўская з Ярылаўкі, калі наведвае магілкі на беларускім баку, як пераносіць усе гэтыя пытанні і прыгнечанасць. А мо гэта быў расейскі мытнік, што ўжо наглядае за парадкам на адзінай, супольнай эканамічнай прасторы. Ёсць таксама і другое тлумачэнне. Славутая чарговая лібералізацыя сістэмы ўлады ізноў не выйшла па-за кальцавую Мінска і на заходнія акраіны не даляцеў яшчэ хаця б найменшы павеў свежага паветра. Прафесар Алег Латышонак, цяжка ўздыхаючы на ўсё гэта, апавясціў едучым згодна з беларускай ментальнасцю: «Але яшчэ прынамсі ёсць дзяржава, якая называецца Беларусь». Адчай і шызафрэнія вялікай Бацькаўшчыны, якая ў песні гучыць «...каб любіць Беларусь нашу мілую...» — гэта неад'емная частка лёсу ўсіх адданых беларускасці. Менавіта выступленне Алега Латышонка ў асноўнай частцы з'езда з дакладам, прысвечаным беларускай нацыянальнай меншасці ў Польшчы, лічу апраўданнем патрэбы нашай там прысутнасці і рэальным голасам у дыскусіі пра сітуацыю беларусаў замежжа. Таму, як заўсёды ў час такіх сустрэч, атрымаўся проста беларускі канцэрт пажаданняў. Тыя ж самыя і падобныя патрабаванні, пастановы, віншаванні зафіксаваныя і ў дакументах папярэдніх зборак. На жаль, пакуль у пераважнай большасці безвынікова. З адной толькі розніцай: папера можа вытрымаць усё, але людзі могуць не дажыць.

**Яўген ВАПА**


У Новаберазове тэматычная вёска працуе пад лозунгам «Новаберазова — вёска пад купаламі, з жывымі праваслаўнымі традыцыямі»

# ДУБІНЫ, ЛІПІНЫ, БАРЫСАЎКА І НОВАБЕРАЗОВА сталі тэматычнымі вёскамі

З 2016 года ў Дубінах, Ліпінах, Барысаўцы і Новаберазове дзейнічаюць тэматычныя вёскі. Для мясцовага насельніцтва з'яўляюцца яны новай прапановай пашырэння ведаў аб гісторыі сваіх сёл, сваёй традыцыі і культуры, а таксама ствараюць магчымасць зацікавіць сваімі козырамі айчынных і замежных турыстаў, якія шматлюдна наведваюць Белавежскую пушчу і яе наваколле, а частка з іх затрымліваецца на начлег у агракватэрах у Гайнаўскай гміне. У Дубінах падчас арганізавання тэматычнай вёскі рашыліся вярнуцца да традыцыі асочнікаў, якія ахоўвалі Белавежскую пушчу. Жыхары Барысаўкі зрабілі стаўку на драўлянае будаўніцтва і выкананне вырабаў у драўніне. У Ліпінах традыцыяй стаў «Бульбафэст» і таму мясцовыя актывісты з аб'яднання «Крыніца» зрабілі стаўку на беларускія бульбяныя традыцыі і знаёмяць з імі мясцовае насельніцтва і турыстаў. У Новаберазове і на палях вёскі былі збудаваны тры царквы і дзве часоўні, у якіх кожны год у свой час можна прымаць удзел у багаслужбах. Таму мясцовыя актывісты прапагандуюць гэты козыр сяла пад лозунгам «Новаберазова — вёска пад купаламі, з жывымі праваслаўнымі традыцыямі».

Гайнаўская гміна атрымала прапанову ўключыцца ў сетку тэматычных вёсак у Польшчы. Першапачаткова больш сёл выявіла ахвоту далучыцца да такой дзейнасці. Завязаліся ў іх ініцыятыўныя вясковыя групы, якія сталі рыхтаваць прапановы дзейнасці сваіх вёсак у якасці тэматычных. Работу завяршылі толькі чатыры групы актывістаў і ў выніку ў Гайнаўскай гміне пачалі дзейнічаць тэматычныя вёскі ў Дубінах, Ліпінах, Барысаўцы і Новаберазове.

— Арганізавацъ у нашай гміне тэматычныя вёскі запрапанавала **Караліна Ліхтаровіч** з Фонду форуму развіцця і адукацыйных ініцыятыў. Дзякуючы такой ініцыятыве, — пераконвала, — можна будзе актывізаваць мясцовае насельніцтва. Пасля дапамагала нам арганізаваць тэматычныя вёскі. Галоўныя атракцыёны тэматычных вёсак у нашай гміне абапіраюцца на багацце нашай гісторыі, культуры, традыцый. У прапановах, накіраваных да арганізаваных груп наведвальнікаў, мы знаёмім з мясцовымі козырамі. Гаворым пра культуру мясцовых беларусаў, праваслаўныя традыцыі, прапануем пазнаёміцца з незвычайнай прыродай Белавежскай пушчы, якую ў мінулым ахоўвалі мясцовыя асочнікі, і яе прыгожага наваколля, — сказаў **Марк Багроўскі** з Дубін, які моцна ангажаваўся ў стварэнне тэматычных вёсак у Гайнаўскай гміне і зараз з'яўляецца адказным за дзейнасць тэматычнай вёскі ў сваёй мясцовасці.

Пад Гмінным цэнтрам культуры ў Дубінах дошка з лозунгам «Вёска малога асочніка» ўказвае на будынак дубінскага цэнтра. У двух памяшканнях цэнтра знаходзіцца пастаянная экспазіцыя «Вёска малога асочніка ў Дубінах». На выставе даецца дэталёвая інфармацыя пра тэматычную вёску ў прыпушчанскім сяле з улікам на мясцовыя гісторыю і традыцыі. Можна пазнаёміцца з мінулым Дубін, якія зараз практычна зліліся з Гайнаўкай. У цэнтральным месцы канцэртнай залы ГЦК стаяць вялікія выявы пушчанскага асочніка і яго жонкі, з выразанымі адтулінамі на твар. Наведвальнікі могуць прыкласці свой твар да адтулін і сфатаграфавацца ў ролі асочнікаў — сялян-слугаў, якія ў Вялікім Княстве Літоўскім у XIV-XVIII стагоддзях ахоўвалі пушчы.

— У Дубінах апрача мяне ў арганізаванне тэматычнай вёскі ангажаваліся таксама **Моніка Скепка** і **Якуб Юзвік**. Наша войт **Люцына Смактуновіч** падтрымлівае дзейнасць тэматычных вёсак. Мы за невялікай платай можам карыстацца вясковымі святліцамі для правядзення майстар-класаў. Падчас сустрэч з арганізаванымі групамі наведвальнікаў звяртаем увагу на гісторыю асочных Дубін. Мяркуецца, што Дубіны заснаваны былі ў 1639 годзе. Асочнікамі былі мясцовыя сяляне, якія ахоўвалі Белавежскую пушчу, — паведаміў Марк Багроўскі. — Мы ў рамках дзейнасці тэматычнай вёскі ў Дубінах праводзілі заняткі для мясцовых дзетак і моладзі, прымалі арганізаваныя групы наведвальнікаў. Удзельнікі майстар-класаў выконвалі мастацкія працы, прысвечаныя рабоце асочнікаў, якія ўжо ў сямнаццатым стагоддзі жылі ў Дубінах і ахоўвалі Белавежскую пушчу, шукалі скарб асочнікаў паводле знакаў, размешчаных у наваколлі Гміннага цэнтра культуры і ў самой святліцы. Былі ў нас таксама кулінарныя заняткі, калі мы рыхтавалі наш мясцовы прадукт — варэнікі з сырам. Наведала нас, між іншым, група турыстаў з Германіі. Сустрэчы з арганізаванымі групамі турыстаў таксама важныя для прамоцыі турыстычнай прапановы (агракватэры, начлег, традыцыйнае харчаванне — А. М.) нашай вёскі і цэлай Гайнаўскай гміны. Мясцовыя вучні ў рамках тэматычнай вёскі знаёмяцца з гісторыяй Дубін і наваколля, з мясцовымі традыцыямі і культурай, чаму не навучацца па падручніках. У падобны спосаб дзейнічаюць тры іншыя тэматычныя вёскі ў нашай гміне.

Жыхары Ліпін, згуртаваныя ў аб'яднанні «Крыніца» сарганізавалі тэматычную вёску, прысвечаную бульбе. У мінулым бульба была асновай харчавання вясковага насельніцтва і кормам для жывёл. Падчас «Бульбафэстаў», якія ў Ліпінах арганізуе аб'яднанне «Крыніца», бульбу пяклі ў вогнішчы і частавалі наведвальнікаў мерапрыемства. Бульбяныя стравы можна было паспрабаваць і ацаніць падчас адмысловага конкурсу. Пераможцамі станавіліся асобы, якія выканалі самыя смачныя стравы. **Іаанна Кірылюк** з «Крыніцы» адзначыла вялікае значэнне бульбы ў штодзённым жыцці, якую нават называюць нацыянальнай стравай беларусаў.

— Мы пашыраем выкарыстанне бульбы ў дзейнасці нашага аб'яднання і таму ствараем адукацыйную вёску, прысвечаную бульбе. Я пасаджу больш бульбы, каб турысты маглі спачатку пагледзець, як яна расце і ўбачыць каларадскіх жукоў на кустах бульбы. Восенню змогуць яны паспрабаваць капаць бульбу, пячы яе на вогнішчы, падрыхтаваць бульбяныя стравы і пасля з'есці, — сказаў **Кшыштаф Якубоўскі** з «Крыніцы».

— Мы хочам далучыць да адукацыйнай дзейнасці вёскі як найбольш жыхароў Ліпін, каб яны на сваіх панадворках таксама выйшлі са сваімі прапановамі, — дабавіла старшыня «Крыніцы» **Кацярына Якубоўская**, якая разам з **Малгажатай Добаш** займаецца вядзеннем тэматычнай вёскі ў Ліпінах.

Аб'яднанне «Крыніца» ў рамках тэматычнай вёскі ладзіць сустрэчы для арганізаваных груп наведвальнікаў, дапасоўваючы да іх узросту свае прапановы. Ладзяцца гульні для дзетак і моладзі, спалучаныя з бульбай, выконваюцца мастацкія працы з бульбы і іншых прадуктаў. Прапануецца падрыхтоўку і спажыванне страў з бульбы, дзе пачэснае месца займаюць бульбяныя дранікі.

Барысаўка, у якой дзейнасцю тэматычнай вёскі кіруюць **Эва Мацяюк** і **Галена Сцепанюк**, прапануе лозунг «Барысаўка — вёска драўляная». Драўлянае будаўніцтва характэрнае ўсяму рэгіёну Белавежскай пушчы. Аднак Барысаўка гэта вёска, у якой захавалася многа драўляных дамоў, хлявоў, клуняў і іншай забудовы. У Барысаўцы ў рамках дзейнасці тэматычнай вёскі праводзіліся ўжо майстар-класы па маляванні на драўніне і па іншых родах мастацтва з выкарыстаннем драўніны. Каля святліцы знаходзіцца вялікая драўляная дошка з кіем і на падставе гэтых прылад можна акрэсліць надвор'е ў Барысаўцы і яе наваколлі. У гэтым сяле былі свае майстры, якія выконвалі вырабы з драўніны, і зараз гатовы яны распавесці аб сваёй працы. Вясковыя жанчыны варылі мясцовыя стравы, у тым ліку варэнікі. Дзеткі, якія прыходзяць на заняткі ў святліцу, любяць пагуляць. Гульні і пачастунак каля вогнішча прапануюцца таксама прыезджым арганізаваным групам.

У Новаберазове і на палях вёскі былі збудаваны тры царквы і дзве часоўні, у якіх кожны год у свой час здзяйсняюцца багаслужбы. Мясцовыя актывісты для тэматычнай вёскі прыдумалі лозунг «Новаберазова — вёска пад купаламі, з жывымі праваслаўнымі традыцыямі». **Эва Мароз-Кэчынская**, якая кіруе дзейнасцю тэматычнай вёскі, запрашае ў Новаберазова — у сяло з 450-гадовым мінулым і прапануе пазнаёміцца з каштоўнасцямі праваслаўнай традыцыі, з царкоўным спевам, іконамі і выкананнем свечак. Турысты, якія наведаюць мясцовыя цэрквы, могуць пазнаёміцца там з даўнімі іконамі, а арганізаваная група можа ўдзельнічаць у майстар-класах па падставах іканапісання. Такая група можа прыняць удзел у майстар-класах па фатаграфаванні царкоўнай архітэктуры Новаберазова пад наглядам спецыяліста. Можна таксама вучыцца называць дрэвы ў садзе і, канешне, прапануюцца інтэграцыйныя гульні для дзетак. У Новаберазове быў наладжаны агляд праваслаўных вясковых хароў з прыходаў, размешчаных на тэрыторыі Гайнаўскай гміны. Выконваліся тады творы царкоўнай музыкі, якія слухалі мясцовыя жыхары і прыезджая публіка. Гэта было стымулам для тэматычнай вёскі Новаберазова, каб зрабіць стаўку таксама на царкоўны спеў у якасці аднаго з козыраў тэматычнай вёскі. Удзельнікам асабліва спадабаліся майстар-класы па выконванні свечак з воску. Выконваліся таксама іншыя, цікавыя дзеткам, прадметы з воску.


Выявы асочніка і яго жонкі ў Дубінах

Тэкст і фота **Аляксея МАРОЗА**

## Цудоўны летні фэст у Нараўцы

Зараз пасля поўдня 23 ліпеня гэтага года Галоўнае праўленне Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Беластоку і Гмінны асяродак культуры ў Нараўцы арганізавалі беларускі народны фэст. Надвор'е ў гэты дзень было цёплае, але не сонечнае. Мерапрыемства ладзілі ў амфітэатры ў Нараўцы. У амфітэатр прыходзіла ўсё больш і больш людзей. Прыехалі некаторыя жыхары з Альхоўкі, Лешукоў і Новага Ляўкова.

У пачатку канцэрта выступілі адзін саліст і дзве салісткі з Гміннага цэнтра культуры ў Гарадку: Адрыян Ягораў, Магдаліна


„Расспяваны Гарадок"

Якімюк і Наталля Алексяюк, якіх да выступу падрыхтаваў Юры Астапчук. Спевакі добра сябе зарэкамендавалі. У іх мілагучныя галасы, а ўжо асабліва ў Наталлі Алексяюк. Спявалі песні пра прыгажосць жыцця на роднай зямлі і пра каханне.

Затым прыгожа спявалі калектывы „Расспяваны Гарадок" (пад мастацкім кіраўніцтвам Віктара Маланчыка спяваюць у ім сем чалавек), дзявочыя „Росы" з Вясковага дома культуры ў Рыбалах (групай з пяці асоб кіруе Лідзія Мартынюк), мнагалікая мешаная „Жэмэрва" са Студзіводаў (кіраўнік Анна Фіёнік) і эстрадны „Лайланд" з Беластока (кіраўнік Багдан Астапчук). Выступалі яны ў прыгожых народных касцюмах.

Дзяўчаты з рыбалаўскіх „Росаў" спявалі і танцавалі. У іх выкананні вельмі спадабаліся песні „Вёсачка" ды „Чаму ж мне не пець". Студзіводская „Жэмэрва" спявала традыцыйныя падляшскія песні, між іншым, „Пасеяла я агуручкі", „У полі азёрэчко" і „Многая лета". У яе цудоўныя галасы. У рэпертуары былі таксама танцы. „Лайланд" спяваў „Цячэ вада ў ярок", „Дарма Ясю ходзіш", „Вяне рута", „Белая касыначка" і „Палюбіла маладога цыгана".

Трохгадзінны канцэрт закончыў сваім яркім і запамінальным выступам беларускі казачы ансамбль „Бацька атаман" з Мінска (Беларусь). Публіка доўга не адпускала яго са сцэны. У ім выступаюць спевакі- прафесіяналы. Гэты калектыў два гады таму выступаў, між іншым, на Свяце беларускай культуры ў амфітэатры ў Беластоку і мая сяброўка з Пляньты пра яго і зараз не забывае. Я прыпомніў ёй некаторыя песні, якія ён спяваў падчас канцэрта ў Нараўцы. А былі гэта, між іншым, „Ноч месячная", „Распрагайце хлопцы коней", „Чорны воран", „Люба мне, когда туман разліваецца", „Дзікае поле", „Какім ты был" і „Травы ветрам качаюцца". Такія песні слухаў бы і слухаў. У продажы было многа кружэлак з запісам песень „Бацькі атамана" і ўсе прадалі.

Тэкст і фота **Янкі ЦЕЛУШЭЦКАГА**

# Фестываль добрай музыкі

**«Басовішча» — адна з нешматлікіх музычных падзей нашага рэгіёна, якія сапраўды нельга прапусціць, беручы пад увагу перш за ўсё свойскую, нічым хлеб з уласнай печкі, музыку, да таго ж на высокім узроўні.**

І вось на тыдзень да фестывалю рассыпаўся мне аўтамабіль. «Няма чаго збіраць, — патлумачыў мне дзяжурны механік, — сваё даўно з'ездзіў, пара купляць іншы».

Такое няшчасце. На чым тут цяпер у Гарадок дабрацца? Можна на любімым ровары? Гэта раптам дваццаць кіламетраў. Але ноччу ў лесе не зусім весела, а і дрэмлючую на багажніку дачку выпадкова можна згубіць.



Пазайздросціла я суседзям-байкерам, якія разам з сябрамі з розных куткоў Польшчы паехалі туды, быццам з аховай прэзідэнта. Доўгі шнурок матацыклаў спакойна і дастойна стартануў з нашай вузенькай вуліцы. Пасярэдзіне калонкі, у рэтра-калясках, дачэпленых да матацыклаў, дочка суседа. Іх доўгія, белыя як даспелы лён валасы луналі на ветры з-пад чорных касак з часоў юнацтва маіх бацькоў, а іх дзядоў. Мая дачка, васьмігадовая Таня, убачыўшы іх, шчыра расплакалася ад жалю, што не ўзялі яе з сабою. І плакала так недзе да поўначы, пакуль не заснула перад камп'ютарам, гледзячы на ютубе прамую трансляцыю з фестывалю.

Усё роўна, глядзець у камп'ютары гэта зусім іншае, чым бесклапотна скакаць пад сцэнай са светлавалосай суседкай з матацыклетнай каляскі. І гэты непаўторны настрой, каляровае святло ў начной цемры, ларкі з парыкамі, рагамі, якія свецяцца, і капелюшамі, бульба фры, штучны аранжад... Гэтага не заступіць нават торт са смятанай і трускалкамі, які я спякла, слухаючы прамую трансляцыю.

Ва ўрочышча Барык даехалі мы на другі дзень фестывалю дзякуючы цёці Гражыне, якая зліталася над няшчасным дзіцём і прыехала ратаваць сітуацыю аж з-пад самога Бельска. Свайго рашэння не шкадавала. Аказваецца, што цяперашняя формула «Басовішча» адпавядае любым густам і пакаленням. Ад некалькіх гадоў зоркай нумар адзін Тані быў «Naviband». Сёлета больш спадабалася ёй выступленне калектыву «Vuraj». Напэўна па прычыне знаёмага ёй рэпертуару, прытым у якаснай апрацоўцы. Гэта ж народныя песні, між іншым, з-пад Крынак, якія Таня спявае амаль штодзень. Не ведаю, які выканаўца найбольш спадабаўся светлавалосай, дзесяцігадовай сяброўцы з Крынак. Магу толькі дадаць, што Іга — так яе завуць — на «Басовішчы» кожны год, амаль ад нараджэння. Перадфестывальны тыдзень праводзіла яна на мастацкім летніку. Хаця вельмі ёй там падабалася, рашыла крыху раней вярнуцца дахаты, каб паспець на «Басовішча».

Байкеры затужылі па прошлым, па фестывальных зорках. Помняць, як «Культ» рабіў свае рэпэтыцыі ў кустах. А пасля са сцэны казаў:

— Мы чулі, што на ўсходзе добра гуляюць.

І сапраўды ігралі да самой раніцы.

Прызнаюся, што і мне сёлетняя зорка «Łona і Webber&The Pimps» была зусім незразумелай. Арыентуюся, што такой музыкай цікавяцца гімназісты. Мне праляцела праз вуха незаўважанай так у сэнсе музычным, як і тэкставым. Але, гледзячы на колькасць танцуючых пад сцэнай, можна сказаць што арганізатары выйшлі насустрач запатрабаванням большасці. Важна, што выступаюць тут менавіта паляки, ёсць шанц, што паявяцца яны і сярод публікі. Для любога фестывалю, вядома, чым больш слухачоў, тым лепш. Крытыкаваць арганізатараў сапраўды няма за што. Належыцца ім вялікая падзяка за цяжкую працу і паспяховае яе завяршэнне.

Вяртаючыся да густаў, аматары моцнага ўдару мелі сваіх «The Superbullz» з Заходняга Палесся. Абсалютна ўсіх зачаравалі балканскія рытмы сербскага калектыву «Neozbiljni Pesimisti». Папросту ногі самі падрываліся да танцаў.

Шматгадовым фанатам беларускай альтэрнатыўнай сцэны напэўна цікава было сачыць за развіццём любімых выканаўцаў. Даспяваюць яны, даспявае іх музыка. Здаецца, гітамі магілёўскага «Akute» ніколі не стомішся. Калі ўжо гаварыць пра гэты калектыў, вялікае ўражанне зрабіла на мне маладая перкусістка. Колькі ж гэта сілы трэба, каб цэлую гадзіну ўдараць у бубны і талеркі, прытым з такой лёгкасцю і грацыяй, быццам іграла на народных цымбалах у філармоніі.

Калі ідзе пра тэксты, найвялікшы ўзровень паказалі, на маю думку, брэсцкія «Daj Darogu!» і харкаўскія «Вагоновожатые». Парадаксальна, адзін і другі спявалі па-расейску. Ці гэта абазначае: па-чужому? Яны ж выраслі і жывуць у гэтай мове. Як жа ім тут па-іншаму перадаць атмасферу шэрай, складанай бытавухі? Трэба сказаць, што і аранжыроўкі ў згаданых калектываў аказаліся не менш цікавымі за тэксты.

Што яшчэ ўразіла? Колькасць спажытага піва. Пілі гекталітрамі мужчыны, жанчыны, дзяўчаты, хлопцы а пасля закусвалі чым папала, найчасцей бульбай фры. Колькі ж гэта грошай утапілася ў гэтым залатым напітку. Сапраўдны — залаты інтарэс.

І на канец. На фестывалі маладой Беларусі калектываў з нашага боку мяжы як на лякарства, таму што і беларусаў у нас на лякарства. Але цешыць, што для гэтай жменькі ёсць нагода хаця б раз у год пачуць добрую, якасную і, самае найважнейшае, сваю музыку.

**Іаанна ЧАБАН**

# На рэабілітацыйным аддзяленні (2)

З Аляксеем Белеўскім я ўпершыню сустрэўся ў палаце прыёму Гайнаўскага шпіталя. Яго першага выклікалі, мяне пазней. У палаце № 10 мы сталі суседзямі — ложкі знаходзіліся побач. Як навічкі пачалі мы размову са знаёмства. Нічога перад сабою не скрывалі. Гаварылі па-братэрску. Не ведаю, але чамусьці прыпалі мы сабе да сэрца. У канцы размовы я выявіў, што пішу ў «Ніву». Калі намякнуў пра ніўскага журналіста Аляксея Мароза, пачалася спрэчка. «Ведаю такога, — канстатаваў сябра. — Прыкмячаў, як здымкі рабіў на імпрэзах. Даўно тым займаецца. Але яго не Аляксеем, а Лёнікам клічуць», — запэўніваў калега. Я заверыў, што ў «Ніве» Лёнік не працуе адно Аляксей Мароз. У канцы Алёша Белеўскі здагадаўся, што Мароза, так як і яго, завуць Лёнікам, паколькі Лёнік і Алёша гэта памяншальная форма імя Аляксей у мясцовых гаворках.

На другі дзень падаліся мы на практыкаванні. Паколькі ў мяне былі балючыя ногі, Алёша падвозіў на заняткі на шпітальным вазку. Перад ліфтам сустрэлі двух пацыентаў, якія падаваліся на практыкаванні. Адзін з іх, прыглянуўшыся мне, загаварыў: «Владэк?».

— Владэк, — кажу. — А ты адкуль будзеш?

— З Грэдалёў, Міша Мазурук. А гэта мой сябра, Янка Ваўранюк з Тынявіч-Вялікіх, — зарэкамендаваў калегу.

З таго часу мы састаўлялі дружную кампанію. Міхась з Янкам заходзілі ў нашу палату (яны ляжалі ў суседняй палаце № 11), глядзелі тэлевізар, праводзілі доўгія размовы. Я рабіў занатоўкі ў дзённіку. Вось што расказаў мне мой сябра па палаце Аляксей Белеўскі.


Аляксей Белеўскі з жонкай Нінай

— Нарадзіўся я ў Моры ў 1939 годзе. Сем год пазней, у 1946 годзе, пайшоў у школу. Разам у Моры вучыліся дзеці з Крывятыч. З настаўнікаў запамятаўся мне адно настаўнік Барвінскі. Пасля заканчэння пачатковай школы падаў прашэнне ў Сельскагаспадарчы тэхнікум у Бельску-Падляшскім. Адмовілі. Бацька меў трынаццаць гектараў поля і падатковую запазычанасць. Так было напісана ў гмінным пасведчанні. Пісаў я ў іншыя школы, але адмаўлялі. Клеймо «сын кулака і запазычанасць у падатках» закрывалі мне доступ да далейшай навукі. Вымушаны затым быў падацца на заробкі ў Польшчу. Аформіўся я на будаўнічым прадпрыемстве ў Эльблангу. Кіраўніком быў Травінскі. Тры гады там працаваў. Пасля працаваў на будовах у Хожаве, Гажове-Велькапольскім. Пасля пяцігадовага бадзяння вярнуўся на бацькаўшчыну. На гаспадарцы працавалі бацькі — Кірыла і Кацярына ды двух братоў — Толік і Валодзя. Аформіўся я на працу ў Гайнаўскім тартаку. У1959 годзе прызвалі ў армію. Трохмесячнае абучэнне да прысягі, затым дзевяцімесячныя падафіцэрскія курсы. Атрымаў званне капрала. Паколькі мелі мы магчымасць выбіраць вайсковую часць (бліжэйшай да месца пражывання), перавялі мяне ў Гайнаўку. Нядоўга там служыў. У Нурцы (у вартаўнічай службе) не хапала капралаў. Мяне перавялі ў Нурэц. Там закончыў вайсковую службу ў 1961 годзе. Вярнуўся на працу ў тартак. У 1967 годзе ажаніўся. На вяселлі гуляў у мяне даўнейшы настаўнік Барвінскі. Я надалей працягваў працаваць у тартаку. Пяць гадоў на пілараме, пасля на сартавальні. У 1972 годзе перавялі ў цэх па вырабе мэблевых дэталяў. Там заставаўся да пенсіі. У тартаку перапрацаваў трыццаць гадоў. Залічылі 10 гадоў працы на гаспадарцы. У агульным падліку я — пенсіянер (ад ліпеня 1995 года) з саракагадовым стажам працы. У шасцідзясятых гадах купіў дзесяць сотак участка пад будову. У 1972 г. пабудавалі з жонкаю «гаспадарчы» будынак, затым купляў матэрыял у тартаку на жылы дом. Пабудова доўжылася больш дзесяці гадоў і закончылася ў 1984 годзе. Ад пяцідзесяці гадоў лічуся жыхарам Гайнаўкі. Вось такая мая гісторыя, — завяршыў расказ сябра па палаце Алёша Белеўскі.

Тэкст і фота **Уладзіміра СІДАРУКА**

# Пярэдняя дамба супраць беларусаў

працяг з 30 н-ра «Нівы»

**БЕТОН НА НАШЫМ ПАДМОКЛЫМ**

Ужо 5 снежня 1991 г. было вядома, што згодна з артыкуламі (35 уст. 2, пкт. 1 закона з 25.04.1985 г. аб гаспадарцы грунтамі і экспрапрыяцыі нерухомасці і распараджэннем Рады Міністраў ад 16.09. 1985 г.), што вялікая частка нерухомасцей не была неабходнай для мерапрыемства і інвестар «перадаў іх у распараджэнне дзяржаўных арганізацыйных адзінак». А тыя сталі ім распараджацца, бясплатна, з момантам перадачы ім здача-прыёмнага пратакола з днём 30 снежня 1991 года. І так, напрыклад, Нараўчанская гміна стала ўласніцай участкаў № 918, 920, 923, 925, 926, 927, 928, 930, 936, 940, 941, 942\1 і паловы ўчастка 939, велічынёй кожны па ад 0,16-0,17 га ў Луцэ і Слабодцы. Ваяводская ўправа меліярацыі і водных установак выступіла за пагашэнне сваёй управы над гэтай зямлёй у 2335 гектараў, экспрапрыяваных на патрэбы вадасховішча Семяноўка. Яны ляжалі цяпер па-за абсягам вадасховішча, і нават досыць далёка ад яго берагоў. Гэтая маёмасць была цяпер ВУМіВУ **zbędna**. 24 мая 1991 г. тое ж самае атрымалася з 14,74 га грунтоў у Тарнопалі...

Засталіся палі, лугі, лес, дарогі гміннага карыстання, якія перасякалі вёскі і палеткі ад стагоддзяў. Вёсак ужо не было... Начальнік гміны ў Нараўцы 27 верасня 1989 г. у *Decyzji* рашыў пераняць як «пераймаючая адзінка» пагашаныя нерухомасці разам з «карысцямі і цяжарамі» на сябе, значыць на Гмінную ўправу, як маёмасць Дзяржаўнага фонду зямлі. У абгрунтаванні інфармуе, якім чынам яны пагаслі і чаму — пераcталі яны быць патрэбныя згодна з былым планам прасторавага добраўпарадкавання і «*winny* быць яны выкарыстаны для лясной і сельскагаспадарчай вытворчасці». Гмінная ўправа ўключыла іх да сваіх здабыткаў ДФЗ. Дакумент трапіў *ad acta*, у Ваяводскую ўправу сельскагаспадарчых інвестыцый у Беластоку ды ў Аддзел геадэзіі і гаспадаркі грунтамі, філіял у Гайнаўцы. Падобна размеркаваліся з участкамі паверхняй 2355 квадратных метраў вёсак Лука і Слабодка 15 снежня 1991 г., паводле прынцыпаў распараджэння старшыні Рады Міністраў ад 16.09.1985 г. у справе дэталёвых прынцыпаў і спосабу аддавання пад управу і карыстанне **дзяржаўнымі** нерухомасцямі і перадачы іх паміж дзяржаўнымі арганізацыйнымі адзінкамі і аплаты за іх. У гэты раз рашэнне падымае Раённая ўправа ў Гайнаўцы, а паведамляе аб гэтым Ваяводскую ўправу меліярацыі і водных установак, Гмінную ўправу ў Нараўцы і Эвідэнцыю грунтоў. Апрача пячатак чыноўнікаў павятовых установаў дастаўлена была пячатка інспектар мгр інжынер Галіны Ляшчынскай ды добра выробленая па баках пячаць: «Niniejsza decyzja jest wykonalna na podstawie art. 130 par. 4 K.P.A.". Што напісана пяром, не вырубіш...

На дакументах, спярэшчаных пячаткамі і подпісамі чыноўнікаў, што вядомыя ім рашэнні наконт зямлі, ёсць і подпісы ручныя. І прыпіскі, якіх не запамятаў бы гаспадар кожнага малюсенькага ўчастка, на якім рассяляліся сем'ямі тутэйшыя гаспадары. Вось Тарнопаль. ВУМіВУ пералічвае перад войтам гміны ў Нараўцы 24 мая 1991 г. участкі, якія ім цяпер непатрэбныя. Тут ёсць і подпісы гаспадароў гэтых участачкаў — Садоўскага Юзафа, Бірыцкага Паўла, Сухадолы, Харкевіч. Падпісваюцца, што вядомае ім рашэнне, што іхнія ўчасткі трапяць цяпер пад распараджэнне гміны. Разам 14,74 гектара. А ў «obrębie Siemianówka g. Narewka» — участак № 17 паверхняй 3,97 гектара, участак № 517-20,94 га, № 564-7,04 га і меншыя — па 0,97 га, 0,20 га, 0,34 га, 0,21 га — разам 33,67 га — тут уручную дапісалі: «jest decyzja». І яшчэ са Слабодкі — участкі амаль усе па ледзь у сотку — але разам 2,585 гектара. Агулам для перадачы — 50,795 гектараў. Далучаны былі па тры экземпляры з рэгістру грунтоў абсягу вёсак Тарнопаль, Семяноўка, Лука і Слабодка. Грунты былі ўжо непатрэбныя інвестару. У жывых гаспадароў, якія мусілі іх аддаць сілай за зламаны шэляг, не пыталіся, ці хочуць іх назад. Грунты былі ўжо супольныя і сталі імі распараджацца гмінныя ўправы.

Сталі будаваць на беразе «турыстычную інфраструктуру» і прадаваць участкі на аўкцыёнах. Адзначаючы (22.06.2017 г.), што тыя ўчасткі расположаныя «ў чашы вадасховішча Семяноўка», гэта грунты непасрэдна пакрытыя вадой у межах падняцця яе да 145 м н.у.м., і грунты прылягаючыя да вады ў межах падняцця вады да 147 м н.у.м, ствараючыя зону адмоўнага ўплыву вадасховішча, якія пад пагрозай падтаплення і празмернай вільгаці». Але прадаць іх можна, ды і за немалыя грошы.

Войт Нараўчанскай гміны 20 чэрвеня 2017 г. аб'явіў аўкцыён, дзе запрапанаваў набыццё 21 участка. У Нараўцы — для гаспадарчай пабудовы і на месцы працы два ўчасткі велічынёй 3040 кв. м — цана 88 230 зл. А для пабудовы гатэляў і пансіянатаў — у Луцэ — участкі №№ 931/1 і 930/1 велічынёй 3345 кв. м — цана 87 100 зл., участкі №№ 928/1 і 927/1 велічынёй 3471 кв. м, цана — 90 400 зл., участкі №№ 925/1 і 924/1 паверхняй 3 474 кв.м, цана — 88 700 зл., участак 923/1 і 922/1 (таксама ўжо з «загаспадаранай зеленню») велічынёй 3354 кв. м, цана — 86 400 зл., участкі №№ 921/1 і 920/1 (для паслуг разам з зеленню) велічынёй 3242 кв. м, цана 78 400 зл., участкі №№ 919/1 і 918/1 (для паслуг разам з зеленню), велічынёй 3134 кв. м, цана — 75 800 зл. Гэта толькі пачатковыя цэны аўкцыёна (меў ён адбыцца 27 ліпеня ў Нараўцы). І абавязкова адзначана: «Nieruchomości będące przedmiotem sprzedaży nie są obciążone ograniczonami prawami rzeczowymi ani ograniczeniami w rozporządzaniu». Ці гэта праўда? А ці хоць гміна паведаміла жывых яшчэ ўласнікаў ці іх спадчыннікаў, што прадаецца іх родная зямля, якую аднялі ў іх за бесцэнь на план апантаных партыйных чыноўнікаў-валадароў і інжынераў-землямераў, якім снілася таксама валоданне душамі?..



Дзеці з Лукі на рэчцы Нарве. Фота з архіва «Нівы»

Вось Валянціна Харкевіч, якая жыве ў Новай Луцэ па вуліцы Лясной накіравала ліст у Ваяводскую ўправу меліярацыі і водных установак (шмат устаноў прапала або змянілася ў час паслясацыялістычнай трансфармацыі, але яны трымаюцца) 14 чэрвеня 2017 г. у справе сваіх участкаў на падставе арт. 2 уст. 1 і арт 10 уст. 1 закона ад 6 верасня 2001 г. аб доступе да публічнай інфармацыі (Dz.U. 2016.1764) — наконт аплат у рамках непасрэднай еўрасаюзнай падтрымкі да ўчасткаў № 1459/1 і № 1457 распаложаных у кадастры Лукі Нараўчанскай гміны, патрабуючы таксама інфармацыі пра ўсе дамовы аб арэндзе, карыстанні і крэдытаванні (użyczeniu) гэтых участкаў. ВУМіВУ, якая, як адзначала, дзейнічае ад імя маршалка Падляшскага ваяводства, *uprzejmie* праінфармавала спадарыню Харкевіч, што не з'яўляецца органам падавання інфармацыі на тэму непасрэдных аплат з Еўрасаюза, і гэты запыт трэба накіроўваць Агенцтву рэструктурызацыі і мадэрнізацыі сельскай гаспадаркі, якое рэалізуе заданні датычныя платнасцей у рамках сістэм непасрэднай падтрымкі. Але на ейных участках ад 2005 г. былі рэалізаваныя наступныя дамовы карыстання грунтам. 09.12.2005 г. была падпісана дамова № **4/200**5 з гмінай Нараўка датычная пабудовы трох адпачынкавых памостаў і пахілу з бетонных пліт; дамова пазыкі грунту **№ 1/2009** г. ад дня 15.01.2009 г. падпісаная з гмінай Нараўка датычная пабудовы амфітэатра з месцамі для публікі, комплексу спартыўных пляцовак, парусных базы і пляжа; дамова карыстання грунтам **№ 15/2014** ад 05.08.2014 г. падпісная з панам Янам Вэрэшчынскім наконт трох драўляных памостаў; дамова пазыкі грунту **№ 2/2017** ад дня 1.02.2017 г. падпісаная з Польскім рыбалоўным саюзам, акругай у Беластоку наконт стварэння месца для прычальвання і спуску лодак; дамова арэнды **№ 20/OP/2017** ад 10.05.2017 падпісаная з панам Янам Вэрэшчынскім наконт аказання паслуг, звязаных з надводным адпачынкам; дамова пазыкі грунту **№ 6/2017** ад 22.05.2015 г. падпісаная з Нараўчанскай гмінай наконт прадаўжэння «камунікацыйнага цягу», г.зн. гміннай дарогі пазначанай нумарам 873/1 для свабоднага доступу да вясковых крыжоў і табліцы ўвекавечваючай высяленне вёскі Лука.

Адзначаюць тут прытым яшчэ раз, што гэтыя «грунты ляжаць у чашы Семяноўскага возера», якое можа на іх выліцца да 145 метраў н.у.м. (хаця не вылілася ўжо 40 гадоў) ды знаходзяцца ў зоне падтаплення, якое таксама ні разу не наступіла і не наступіць, паводле меркаванняў інжынера Аляксандра Мядзведзя. І гэта не перашкаджае інвеставаць гміне ў жалезабетонныя пабудовы на зямлі, па якую пытаецца былая ўласніца, беларуска Валянціна Харкевіч, і аддаваць яе родную зямлю ў арэнду ці прадаваць яе чужым людзям.

(працяг будзе)

**Міра ЛУКША**

## Нарваўская дэмаграфія

У Нарваўскай гміне Гайнаўскага павета 47 вёсак і вёсачак, у тым ліку 39 салэцкіх. Найбольшыя гэта Нарва (пражывае ў ёй 1424 чалавек), Трасцянка (203), Ласінка (183), Тыневічы-Вялікія (132), Крывец (127), Макаўка (116), Гарадзіска (86), Адрынкі (84), Сацы (73), Ляхі (66), Агароднікі (69), Анцуты (64), Ваські (62), Храбустоўка (52), Тыневічы-Малыя (47) і Прыбудкі (46). Ва ўсёй гміне пражывае 3570 чалавек, а ў пачатку 2016 года было 3618. Лік жыхароў Нарваўскай гміны — як аўтарытэтна сцвярджаюць у тамашнім ЗАГСе — з кожным годам меншае і меншае.

За паўтара года — ад 1 студзеня 2016 года да 30 чэрвеня 2017 года — лік жыхароў паменшаў, між іншым, у Нарве — на 10, у Катлоўцы, Тыневічах-Малых і ў Храбустоўцы — там і там на 5 асоб, у Брушкоўшчыне, Сацах і ў Ляхах — у кожнай з гэтых вёсак на 4, у Васьках — на 3 і ў Анцутах — на 2. Павялічылася колькасць жыхароў, між іншым, у Трасцянцы — на дзевяць, у Пухлах — на пяць ды ў Істоку і Новінах — у кожнай з гэтых вёсак на тры чалавекі.

Да найменшых вёсак належаць Новіны — 44 жыхары, Кавела — 43, Ванева і Катлоўка — па 40, Рагозы — 39, Даратынка, Козлікі і Лапухоўка — па 36, Пухлы — 35, Бялкі,Істок і Кутавая — па 33, Градочна і Рыбакі — па 30, Янова — 23, Падбаравіска і Сакі — па 20 жыхароў, Радзькі — 18, Цімахі і Іванкі — па 16, Гарэнды і Скарышэва — па 12, Граматнае — 9, Уснаршчына — 8, Пашкоўшчына — 7, Брушкоўшчына — 6, Цісы — 3, Забалацце — 2, Гайдукоўшчына і Качалы — усяго па 1 жыхары.

Нарваўская гміна займае плошчу ў 24 тысячы гектараў. Насельніцтва размешчана па тэрыторыі гміны нераўнамерна. Ніжэйшая шчыльнасць там, дзе знаходзяцца дзяржаўныя лясы (займаюць яны 35,2 % усёй тэрыторыі), балоты. Яна — 15 чалавек на 1 квадратны кіламетр. У нацыянальных адносінах насельніцтва гміны неаднароднае: жывуць тут беларусы і палякі. Сёлета дзевяць пар атрымае медалі „За шматгадовае шлюбнае сужыццё". У гміне на 100 мужчын прыпадае 105 жанчын. Зараз стогадовых жыхароў няма.

**Янка ЦЕЛУШЭЦКІ**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі

**Размова з народнай паэткай Верай Радзіванюк, якую правялі мы ў яе хаце «з душой», пад лесам, на хутары Міхнаўка, што ў Нараўчанскай гміне.**



# Пішу пра тое, што мяне захапляе!

**«(не) Тоўстая газета»:** — *Як гэта здарылася, што Вы пачалі пісаць вершы?*

**Вера Радзіванюк:** — Я сама дакладна не ведаю як гэта здарылася. Калі мне было столькі гадоў, як вам, была вайна. Я не мела магчымасці вучыцца.

**(не) Тг:** — *Але ў вас такі роўны, прыгожы почырк?*

**ВР:** — За акупацыі, шэсць месяцаў, я хадзіла ў школу. Усе прадметы былі па-беларуску. У нас быў адзін настаўнік, ён паходзіў з Супруноў. Тады не было падручнікаў, мы вучыліся пісаць і чытаць па беларускай газеце. А я сама вывучала пасля мову па «Ніве». Вельмі любіла матэматыку. І хоць я самавук, дапамагала сваім дзецям ажно па восьмы клас рашаць задачы па матэматыцы.

**(не) Тг:** — *А чаму Вы, з такімі здольнасцямі, не маглі вучыцца?*

**ВР:** — Калісь людзі жылі па-іншаму. Калі я падрасла, пайшла замуж. Нарадзіліся дзеці і трэба было займацца гаспадаркай. Калі я пастарэла і мела больш часу, вось тады пачала пісаць.

**(не) Тг:** — *Памятаеце свой першы верш?*

— Так, гэта быў верш «Бярозкі». (*Чытае*)

*Белы бярозкі,*
*Я ж вас пасадзіла,*
*Кволыя, маленькія,*
*Усё на вас глядзела.*
*І калі вясною*
*Вырастуць лісточкі,*
*Станавіліcь большы*
*Вашыя стваолчкі.*
*Так ляцелі годы,*
*вясна, лета, восень.*
*Колькі ж тых гадочкаў*
*Адтуль праняслося!*
*Выраслі бярозкі,*
*Мкнецеся да неба.*
*А я пастарэла,*
*Паміраці трэба...*



**(не) Тг:** — *Ці ў Вашай сям'і хтось пісаў вершы?*

**ВР:** — Не. Але цяпер піша мой сын. Ён па прафесійнай школе і піша ўжо па-польску...

**(не) Тг:** — *А калі Вам найлепш пішацца?*

**ВР:** — Калі ў галаву прыходзяць думкі, нешта трывожыць. Ад таго часу, калі ў 2015 годзе выйшаў мой зборнік «Бабіна лета», я напісала яшчэ сорак вершаў.

**(не) Тг:** — *Вы пішаце празвычайныя рэчы і гэта ў Вас выходзіць далікатна, прыгожа, лёгка. Як пішуцца такія вершы?*

**ВР:** — Я пішу пра рэчы якія мяне захапляюць, пра дрэвы, птушкі, прыроду, якая кожнага дня іншая. Я не надта часта сустракаюся з іншымі паэтамі са сваёй гміны. У творчасці я сама.

**(не)Тг:** — *Вы лаўрэат літаратурнага конкурсу «Дэбют». Вы самі падумалі, каб прыняць удзел у конкурсе?*

**ВР:** — Не, мяне намовіла спадарыня Міра Лукша.

**(не) Тг:** — *Маеце нейкія парады для маладых людзей, якія бяруцца пісаць вершы?*

**ВР:** — Думайце пра тое, што для вас важнае і пішыце пра рэчы, якія для вас многа значаць.

**(не)Тг:** — *Што ў жыцці найважнейшае?*

Вр: — Здароўе і згода. Трэба старацца адганяць ад сябе смутак.

**(не) Тг:** — *Дзякуем за гасціну і прыгожыя вершы!*

**ВР:** — Дзякую!

**Апрацавала: Магда Бяляўская, выпускніца Нараўчанскай гімназіі, ад верасня вучаніца Гайнаўскага белліцэя.**

**Іван Карсунскі,**
«Белы слон», НШ свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку

## Фельетон

Яўген Вапа мудры,
і настаўнік добры
сам фельетоны піша
і другім парады дае:
— Хлопчык, мала тэксту!
— Карыстай з розных крыніц
а не з адной!
— Што ты робіш?
— Фельетону трэба думкі
і тваё адчуванне тэмы.
— Чаму ты пішаш пра адно?
Пішы аб спорце або другім,
толькі памятай:
далёка ад тэмы не адбягай.
Яўген Вапа вучыць
і сам фельетоны піша.

## УВАГА КОНКУРС! № 31-17

**Адгадайце, носіць хто**
**Касцяное паліто?**
**Робяць з яго прадаўцы**
**гузікі і грабянцы.**
**Ч.......**
**(У. Мацвеенка)**

## Загадкі з роднай хаткі

Разгадайце загадку, адказ дашліце ў „Зорку" да 7 жніўня 2017 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на загадку № 27-17: рамонкі. Узнагароду, кніжку Эвы Суса «Снежны чалавек у Мінску», выйграла Віктоыя Гаць з Бельска-Падляшскага. Віншуем!**

# Азія без цэнзуры



Летам 2015 года спадарыня Кася Ляўдацкая са сваім сябрам вырашылі паехаць у цэнтральную Азію. Бацькі спадарыні Касі спачатку не хацелі яе адпусціць. Бацька нават хацеў спаліць яе пашпарт. На шчасце яны пагадзіліся з тым, што запланавала іх дачка. Падарожжа пачалося ў Гродне. Спадарыня Кася і яе сябра пераехалі ўсю Беларусь, Расію і даехалі да Казахстана. Там яны ўбачылі дзіўных жанчын у белых фартухах і белых хустках. Гэта «мянялы» — яны зарабляюць на абмене валюты. У гэты дзень яны перасеклі мяжу Еўропы і Азіі. У Азіі іх захапілі вярблюды, якія свабодна хадзілі па дарогах. Наступнага дня спадарыня Кася і яе сябра апынуліся ва Узбекістане. Усе людзі прымалі іх з ахвотай. Яны змаглі спрабаваць узбекскія стравы — монту і плоў. Пабачылі тандыр, зямную печку, у якой узбекская бабуля пякла хлеб...

У чарговы дзень яны патрапілі ў старажытную мясціну Хіва. Ва Узбекістане пабачылі мусульманскую школу — медрэс і зазірнулі ў харраммячэць. Далей быў Таджыкістан. У гэтай краіне яны пакаштавалі лахмы — супу са шматлікімі дадаткамі. Пілі шэмчай — напой, які робяць з гарбаты, масла, солі і вады. Пасля наведалі Душанбэ, а потым паляцелі на самалёце ў Таджыкскія горы. Там спадарыня Кася і яе сябра наведалі заратустрыцкі храм.





Наступная іх краіна — гэта Кіргізстан. Яны бачылі там людзей, якія жывуць у юртах. У канцы даехалі ў Манголію. Яна падалася ім найбольш дзікай у гэтым рэгіёне. Спадарыня Кася начавала ў юрце ў мангольскай сталіцы Улан-Батар.

Азія прымала іх ветліва і гасцінна, гэта дапамагала пераносіць сорак градусаў жары, якая летам пануе ў цэнтральнай Азіі. Пасля далёкага падарожжа ім прыемна было вяртацца ў родны край — Беларусь.

**Кандрат КОСЦІН**,
«(не) Тоўстая газета»,
вучань беластоцкай
«чацвёркі»

Малюнкі
Кляўдзіі Нікачук

**Вікторыя Гаць,**
«Белы слон»,
вучаніца бельскай «тройкі»

## Беларусь — айчына мая

Як цудоўна сёння на свеце.
Вясна вяселіць душу маю.
Захапляюся — як птушкі на небе
Усе вяртаюцца ў родную старану.
Ляцяць жураўлі, дзікія гусі,
Яны цешацца з вяртання дамоў.
Знаю я, айчына ўсім дарагая
Дарагая ім, як і мне з табой.
Усё навокал расцвітае,
Цёпла, прыгожа і ўсё весялей,
Мая дарагая айчына ажывае,
І радуецца сэрца ў душы маёй.
Вакол усё зелянее,
Цешыць вока і душу маю,
Як калісьці паеду далёка,
Так як птушкі вярнуся дамоў.

## Польска-беларуская крыжаванка № 31-17

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 27-17:**

Спор, дом, ржа, ліпа, багацце, ха. Золак, міг, Ас, пах, праца, сто, ранец.

Узнагароды, аўтаручкі, выйгралі **Вікторыя Гаць** і **Дам'ян Карнілюк** з КШ з ДНБМ у Бельску-Падляшскім. Віншуем!

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | Dziwo | Liczba / Zamówienie | | Przyjaciółka | |
| | Warkocz / Róża | | Słucz / Książka | | | | | |
| Plecak | | | | | | | Dziecko | |
| | | | | | | Ar | | |
| Ręcznik / Tło | | Iwan | | | | | | |
| | | Fa / Gaz | | | | Ha! | Uch! | |
| | Noc | | | | Dźwięk! | | | |
| | | | | Socha! | | | | |



Міхась АНДРАСЮК

# ДРЭВА

**На пачатку было слова, і слова было ў Маці, і яна доўгі час выношвала гэтае слова ў сабе....**

Чарговыя летнія дажджы забівалі хатку глыбей у зямлю, веснавыя вятры — напераменку з восеньскімі вятрыскамі — увішнымі пальцамі выдзеўбалі сакрэтныя пераходы на кухню, а зімовы холад сунуўся начамі цераз падлогу, выціскаючы вечаровую ўтульнасць на гарышча і далей, праз абымшэлыя драніцы, у раззоранае неба.

Бацька абводзіў сцены прызбамі, запіхваў пакулле ў свежыя адтуліны, падпраўляў дах, заганяючы цвічкі ў тонкія дошчачкі, парэпаныя змаганнямі з дажджом і снегам. Трымаў цяпло за расхрыстаныя полы, а на досвітку, калі ледзь толькі прыплюшчыў вочы, яно і так вольнай птушкай зрывалася з пальцаў.

Аднойчы восеньскім вечарам дым з печы пайшоў у комін і, не знаходзячы праход, вярнуўся назад, на кухню. Маці ад здзіўлення ўсплеснула ў далоні:

— Паглядзіце, зачынілі нам дзверы на неба.

І тады яна сказала слова, што выспявала не адзін дзень: дом. Нам трэба будаваць новы дом.

— Трэба, — падтакнула бабуля.
— Мы з Дзмітрыем гэтую вось хатку ляпілі, як ластаўка гняздо. Бервяно на бервяно, тут шчыпаць ляснога моху, там грудачка гліны і зруб стаіць. Час хадзіў неспакойным крокам, не абяцаў, што дзень дачакае вечара на адным месцы, не шпурне нас за сёмае мора, як паўночны вецер вышпурляе ластавак у вырай. Цяпер трэба інача будаваць.

— Гэта як? — не зразумеў бацька.

— Трэба на жыццяў пяць, як след, з пушчанскай драўніны. Варта падумаць, хто ўсе гэтыя сосны бязбольна перавядзе з пушчы на наш панадворак.

— Перавядзе? Бязбольна? — здзівілася маці. Яна прыйшла ў наш свет з шырокіх палёў, яе справы з лесам яшчэ не паспелі завязацца на сем вузлоў і ніколі не чула пра людзей, хто б бязбольна пераводзіў дрэвы з аднаго вымярэння ў другое.

— Дрэвы баяцца людзей з сякерай, ад дотыку сталёвага ляза душа дрэва сінее, густыя, шчыльна сплеценыя слаі разводзяцца ў вадзе страху. З такое драўніны і найлепшыя цеслі не ўзвядуць моцны зруб, што б даўгія гады выстаяў у змаганні з холадам.

— І хто б гэта мог быць? — задумалася маці.

— Некалі гаварылі, той вось, хто сядзіць тут не першае стагоддзе, хто ведае свой радавод да пятага калена і сам адзін пасадзіў больш дрэў, чым усе продкі зрэзалі. Той, хто зорнай ноччу адсочыць воўчы след і не пабаіцца рушыць гэтым следам з нажом у руках, але ж пачуўшы сумны плач воўчай маці, ён засуне нож у кішэню і моўчкі вернецца дамоў. Той, хто ніколі ад холаду не ахінуўся скурай, зрабаванай у пушчанскага мядзведзя. Няпростая справа знайсці сёння такога чалавека, — бабка ўздыхнула і адступіла ў доўгае задуменне.

Бачу яе, як аблакаціўшыся на кухонны падаконнік, доўга лістае ноч, бачу, як у чорным люстэрку акна дрыжаць яе вусны. Гэта пазней зразумею, што менавіта такімі дрыжыкамі вуснаў старыя жанчыны адсяваюць тых, хто неразлучна зліўся з моракам, ад тых, хто прытуліўся да чорнай падушкі часова і расплюшчыць вочы з вяртаннем сонца.

Гравійкай ад Старыны ішла раніца і чыстымі, памытымі ў расе далонямі абапал дарогі раскідвала залаты, сонечны авёс.

— З такога зерня вырастаюць добрыя дні, — сказала баба Вера. — Да Ляксія збіраюся. Пойдзеш?

Дзед Ляксій сядзіць на лавачцы і крэсліць кійком на пяску складаныя фігуры. У яго аднаго ёсць такі кіёк — з гнутай ручкай, цёмна-аранжавы, лакіраваны, прыаздоблены незразумелымі, чорнымі зігзагамі.

— Ну, скажы ты Ляксій, адкуль у цябе такі кіёк? — падпытвалі вясковыя старыкі.

— Даў яго некалі майму дзеду адзін пушчанскі воўк. Стары быў ваўчура, кульгавы на ўсе чатыры ногі. Вазьмі кіёк, чалавек, — сказаў. — Мне ўжо лішні, а табе спатрэбіцца. Ён ведае і мінулае, і будучае, і давядзе цябе куды захочаш.

— Трындзіш Ляксій. Такое не бывае, — пярэчылі ў адзін голас.

— Бывае, не бывае, хто яго ведае, — дзед толькі пасміхаўся, выводзячы на пясок пакручастыя лініі.

— Будучыню чытаеце, куме? І што там бачыце? — бабка падступае да лавачкі і з-за пляча дзеда Ляксія зазірае ў раскладзены на пяску рысунак.

— Ды нічога новага. Рускія прыйдуць, — з уласцівым сабе спакоем адказвае дзед.

— Ізноў? Калі? — бачу як у блакітных вачах бабы Веры мільгае чорная птушка сполаху. Думка слізгае ў кароўнік, дзе ў чаканні свежага сена красуля пераджоўвае начныя сны, забягае ў стайню да Сіўкі, на ляту пералічвае свінячы статак і толькі пасля такой, маланкавай інспекцыі кідаецца дахаты, адчыняе дзверы на кухню. За сталом зноў рассеўся чалавек у зялёнай гімнасцёрцы, з шапкі — засунутай неахайна на левае вуха — падморгвае чырвоная зорачка. Дзед Дзмітрый стаіць пасярэдзіне кухні, пераступае з нагі на нагу і паўтарае зацятым голасам, як сапсаваная патэфонная пласцінка: «Іматьеговёб, як кажуць у вашай Расеі. У шахту паеду, а ў калхоз не пайду. І каня не дам. І карову таксама не. Іматьего, забірайце мяне на Урал, ці куды там хочаце, не пайду, не дам».

— Канешне не заўтра, не паслязаўтра прыйдуць рускія, — дзед Ляксій напоўніў тытунём місачку люлькі, прытаптаў тытунь вялікім пальцам, уваткнуў у рот цыбук, запаліў запалку. — Неба будучыні захінутае дратамі, шчыльна аплеценае з небакраю па небакрай, не даецца адчыніць, як кніжку. Калі яно будзе, не ведаю, але прыйсці прыйдуць. Я ўжо іх не пабачу, а вось тыя, хто дачакае, як толькі дзьмухне злым ветрам з усходу, хай запальваюць грамнічныя свечы і стаўляюць у вокнах праваслаўныя іконы. Усе, нават каталікі.

— Іконы? Навошта іконы? — баба Вера, стрэсвае з вачэй прывіды даўніх гадоў, вяртаецца на восеньскую вуліцу.

— Так падказвае рысунак, — дзед Ляксій тыцкае кончыкам кійка ў зігзаг на пяску. — Дом з іконай у акне будзе памілаваны.

— Камуністы памілуюць дом з іконай у акне? Цікава. Самагонкай мы некалі ад іх адкупляліся, салам, самі ж памятаеце. Але іконамі?

— Можа праваліцца той камунізм і цар вернецца?

— Ну і напалохалі, а ў мяне справа ёсць. І ўжо падумала — казаць, не казаць, мо і няварта спяшацца, калі зноў на завіруху ідзе? Хутчэй дах нам на галаву праваліцца, чым камунізм у Расеі. Куме Ляксію, трэба падабраць дрэвы на новы дом, спілаваць так, каб не зайшліся сінізной ад сполаху, вывесці з лесу асцярожна, пяшчотна, каб не ўпала на зямлю ні адна жывічная сляза. Паможаце?

Дзед Ляксій шаргануў наском чаравіка па пяску, сціраючы з вачэй загадкавую будучыню. Пачухаў патыліцу, цмокнуў куточкамі вуснаў, задумаўся.

— Дрэвы на дом, кажаце. Канешне, выводзіў некалі. Стаяць яшчэ хаткі ў нас і па суседніх вёсках, і людзі ў іх вядуцца. Даўно ніхто да мяне не звяртаўся з такой справай. Цяпер маладыя самі ўсё лепей ведаюць. Сякуць дрэвы як папала, цягаюць — купленае днём, крадзенае ноччу, стаўляюць вялікія дамы і нават не здагадваюцца, што пасля іх не будзе каму жыць у гэтых сценах.

— Паможаце? Ну хто яшчэ, калі не вы? — Вочы бабы Веры прыліплі да дзедавых вуснаў. Вусны змоўклі, стуліўшы крылы, прыселі ў гняздзечку, сплеценым з прыкопчаных тытунёвым дымам вусоў і сівой барады.

— Я памагу вам. Зіма на падыходзе, якраз і лепшы час для такое падборкі. Падбяру і пастараюся бязбольна вывесці іх з лесу. Найлепей, як сумею.

Нарыхтоўка драўніны на новы дом рушыла з першым снегам. Мароз ледзь толькі пачынаў практыкавацца ў сваіх жорсткіх, зімовых абавязках, выпаўзаў з лесных бярлог пасля поўначы і вяртаўся назад з першым сонцам, і баба Вера сказала маці:

— Захутай цёпла малыша, хай прагуляецца з мужчынамі ў лес, пакуль не ўзялася сапраўдная зіма. Спатрэбіцца ці не, няхай пабачыць з чаго пачынаецца новы дом.

Дзед Ляксій сунецца паперадзе, следам крочаць мужчыны з пілой. Задраўшы галаву бачу, як сасновыя вяршыні чапляюцца воблакаў, ім, як засядзелым вяскоўцам, хочацца прытрымаць вандроўніка, пагутарыць, распытаць пра справы ў вялікім свеце. Але воблакі не спыняюцца, ідуць далей на повадзе лістападаўскіх вятроў. Параўняўшыся з вялікай сасной дзед абмацвае яе — спярша вачыма, затым далонямі, грукаецца ў сасновыя дзверы костачкамі сагнутых пальцаў. Слухае водгук, паварочвае галаву.

— Пан ляснічы, гэтая падыходзіць. Можна яе?

— Гэтую так, — ківае галавой ляснічы, дзед падступае яшчэ бліжэй, абдымае сасновы ствол, здымае шапку, прытуляе шчаку да кары, пакрытай разьбой дзесяцігоддзяў.

— Ну, што сястра, стройная ты вырасла, простая, як баразна, што выйшла з-пад рук старога аратага. Стралой ляціш у неба, але ты ведаеш, лёс кожнае стралы, ён не ў воблаках. Рана-позна ўпадзе страла на зямлю. Не крыўдуй на вострае лязо сякеры, не крыўдуй на сталёвыя зубы пілы сястра мая, сасна. Равеснікі мы, па вялікім рахунку, я бачу тваю мяжу і табе, з паднябесных вяршынь мая мяжа ўжо бачная. Што там мяне чакае, за апошняй мяжой, я не ведаю. А ты вось, будзеш надалей жыць. З людзьмі будзеш. Размаўляць будзеш і маўчаць, сум дзяліць і радасць, сустракаць іх і праводзіць. Не ўсім дрэвам наканавана яшчэ раз пражыць жыццё.

Словы дзеда Ляксія жоўтым воскам лашчацца да дрэва, праз тоўстую кару ўліваюцца ў жывічныя калідоры, плывуць да каранёў, падымаюцца да вяршынь. І дрэва супакойваецца, і напаўняецца воскам. Такія жоўтыя, навасканыя брусы цёплай сцяной перавядуць з дзяцінства ў старасць не адно пакаленне людзей.

Рука дзеда Ляксія намацвае сякерку, заткнёную за рэмень. Бярэ ўзмах і наносіць першы ўдар.

— Цяпер можна пілой, — кажа. — Падносіць сякерку да вачэй, прыглядаецца і з халоднага ляза злізвае кроплю цёплай жывіцы.

(працяг будзе)

# Капліца вярнулася ў Кнарыды



**У ноч з 31 ліпеня на 1 жніўня мінулага года згарэла каплічка Іконы Божае Маці „Усіх гаротных Радасць” каля Кнарыд. Каплічка стаяла на крыніцы, адкуль увесь час выплывала вада. Капліцу адбудавалі і ў дзень Пяценкі, у дзясятую пятніцу пасля Вялікадня, 23 чэрвеня г.г. новая капліца была асвечана.**

Збіраўся я падацца на тую ўрачыстасць, якая пачыналася а палове сёмай раніцы. З Беластока на тую пару немагчыма было дабрацца публічным транспартам; можна было даехаць у Бельск, а з Бельска хуткім паломніцтвам на сваіх двaіх... спазніцца. Да таго ж прагнозы абвяшчалі дажджлівае надвор’е. Колькі ж усяляких мерапрыемстваў адбылося без мяне, то ж і гэтае без мяне адбудзецца...

Падаўся я ў Кнарыды ў дванаццатую пятніцу пасля Вялікадня, акурат у дзень важнага царкоўнага свята Яна Хрысціцеля. У гэты раз надвор’е было сонечнае. На адным з панадворкаў заўважыў я пажылога мужчыну, зайшоў да яго, а ён адрэкамендаваў мне жанчыну ў супрацьлеглай мураванцы, якая шмат хадайнічае ў царкоўных справах...

Ірыда Красоўская ахвотна расказала мне пра мясцовую святыню. Капліца згарэла ў выніку падпалу. І зараз пасля пажару жыхары Кнарыд рашылі яе адбудаваць. Будовай занялася бельская фірма братоў Якімюкоў, які выводзяцца з Грабаўца, што каля Дубіч-Царкоўных. Шмат работы было выканана ўзімку, бо была гэтая зіма памяркоўная. І ўжо зімою будынак быў узведзены.

Першая капліца на крыніцы была ўзведзена каля ста пяцідзесяці гадоў таму. Спачатку была гэта паветка з чатырох слупоў з саламянай страхой. З ходам часу капліцу разбудоўвалі. У 2014 годзе быў праведзены рамонт царквы св. Юрыя, што на могілках у Кнарыдах. Званы для абноўленай царквы выканаў Збігнеў Фэльчынскі з Тацішава каля Гліўіц. Ён так захапіўся капліцай на крыніцы, што дадаткова ахвяраваў і звон для каплічкі; той звон чакаў свайго часу...

Сям’я Фэльчынскіх пачала займацца адліўкай званоў у 1808 годзе ў Калушы ва Усходняй Галіччыне. Пасля Другой сусветнай вайны сям’я перанесла сваё прадпрыемства ў Польшчу. Фірма выканала шмат касцельных званоў, у тым ліку для касцёлаў у Кракаве, Варшаве, Лодзі, Ольштыне; яна забяспечыла званамі і манастыр у Яблачыне... На звоне, які з’явіўся на адмысловай званіцы пры новай капліцы каля Кнарыд, прысвячэнне напісанае акуратным старацаркоўным алфавітам.

Паколькі капліца знаходзіцца ў месцы, дзе вада падыходзіць наверх, то для выгады вернікаў вакол капліцы быў пабудаваны памост. Каб той памост пабудаваць, былі высечаны кусты вакол капліцы, але большыя дрэвы асталіся. Адно з іх абрамлена круглаватым сталом, які служыць прылаўкам у час набажэнстваў — з яго прадаюцца свечкі.

Рэшткі капліцы, што не дагарэлі ў час пажару, закапаны побач капліцы, а над імі пастаўлены валун з інфармацыяй пра іх. Іншы валун, паморшчаны, гэта той асаблівы камень, на якім, паводле легенды, паказалася Божая Маці, а невідучаму хлапцу вярнуўся зрок. Побач капліцы шмат крыжоў, якія людзі стаўлялі запар з малітвай за аздараўленне.

Ёсць там і асаблівы крыж, пастаўлены на памятку асаблівай падзеі. Менавіта ўраджэнка Кнарыд, якая выехала ў Беласток, штогадова прыязджала на радзіму на Пяценку. І аднойчы здарылася так, што яна паспавядалася, выйшла з капліцы і ейная душа ў той жа момант адправілася ў лепшы свет...

Кнарыды ў Боцькаўскім прыходзе і могільнікавая царква св. Юрыя з’яўляецца філіяльнай. Набажэнствы правяцца там у другі дзень Раждаства, другі дзень Крашчэння, другі дзень Вялікадня, на Юр’я, на Пяценку і ў дзень Іконы Божае Маці „Усіх гаротных Радасць”. Таксама ў дні паховін і памінання. На Юр’я і ў дзень Іконы Божае Маці „Усіх гаротных Радасць”, значыць 6 мая і 6 лістапада, асвячаюцца магілкі. На могілках хаваюць пакойнікаў з Кнарыд і Старога Сяла. У суботу перад Вазнясеннем у могільнікавай царкве правіцца Сельская літургія; калісь у той дзень адбываўся абход палёў. На Пяценку спярша, а палове сёмай раніцы, асвячаецца вада, вернікі спавядаюцца, а ў сем гадзін правіцца літургія на крыніцы. Другая літургія правіцца ў дзесяць гадзін раніцы ў могільнікавай царкве; пасля службы ў царкве хрэсны ход з харугвамі і іконамі ідзе цераз вёску ў капліцу на крыніцы, а ў нядзелю пасля Пяценкі хрэсны ход ідзе з тымі ж харугвамі і абразамі ў царкву. У чацвер перад Пяценкай у Кнарыды ідзе паломніцтва з Боцькаў; у Кнарыдах правіцца акафіст. У цёплую пару года кожную другую нядзелю ў дзве гадзіны пасля поўдня ў капліцы на крыніцы правяцца акафісты. У зімовую пару хутка змяркаецца і таму ў той час не служыцца.

Першая гістарычная згадка пра Кнарыды датуецца 1512 годам, калі кароль Жыгімонт Стары падараваў Івану Сапегу два двары ў Бельскім павеце: Кнарыды і Беразніцу. З гэтага відаць, што мясцовасць існавала значна даўней. А калі там з’явіліся сакральныя аб’екты — загваздка. Даведнік „Święte miejsca i cudowne ikony” Антаніны і Рыгора Соснаў падае, што могільнікавая царква ў Кнарыдах згадваецца ўпершыню ў 1828 годзе і што была яна ўзведзена ў 1820 годзе. Вікіпедыя і партал Бельскай гміны падаюць, што могільнікавая царква св. Юрыя была ўзведзена ў 1846 годзе, а каплічка на крыніцы Іконы Божае Маці „Усіх гаротных Радасць” была пастаўлена ў 1872 годзе...

Ікона Божае Маці „Усіх гаротных Радасць” была напісана бадай у XVII стагоддзі; загаловак быў узяты са сціхіры: „Всех скорбящих Радосте и обидимых Заступнице, и алчущих Питательнице, странных Утешение, обуреваемых Пристанище, больных Посещение, немощных Покров и Заступнице, Жезле старости, Мати Бога Вышнего, Ты еси Пречистая, потщися, молимся, спастися рабом Твоим”. У 1688 годзе малілася перад ёю цяжка хворая сястра маскоўскага патрыярха Іакіма і ачуняла. Пазней разнавіднасці гэтай іконы атрымалі шырокі распаўсюд у Рускай праваслаўнай царкве. Гэтакім мабыць чынам ікона завітала і ў Кнарыды. На іконе Багародзіца паказана ў ззянні мандорлы — авальнага німба, ахопліваючага ўсю постаць.

А цяпер слоў пару пра маю інфарматарку, Ірыду Красоўскую. Задзівіла мяне ейнае імя. А такое імя запісаў бацюшка ў час хрышчэння. Ды і тое хрышчэнне было незвычайнае — у Боцьках у той час не было бацюшкі і трэба было ехаць у Андрыянкі. Але і ў Андрыянках бацюшка некуды ўлятучыўся. Тады кумы рашылі везці дзіцятка ў суседні прыход, у Падбелле; там бацюшка ахрысціў. Мела быць Ірына, але атрымалася інакш...

Імя Ірыда не выступае ў спіску праваслаўных імён, але такое імя было ў грэчаскай міфалогіі — так называлася багіня вясёлкі. Вікіпедыя: „Галоўная роля Ірыды — быць вястункай багоў, даручэнні якіх яна разносіць са шпаркасцю ветру па зямлі, у марскія глыбіні і нават у пекла. Як багіня вясёлкі, якая з’яўляецца пасля дажджу ў хмары ці ў пырсках вады, Ірыда стаяла блізка да марскіх бажастваў. Па імені багіні вясёлкі названа кветка касач (*Iris*) — за багацце варыянтаў яе афарбоўкі, і хімічны элемент ірыдый, злучэнні якога таксама маюць мноства колераў”.

Калі імені няма ў царкоўным спіску, то можна апасацца, што носьбіт таго імені не мае нябеснага заступніка. Але ў маёй субяседніцы справа маецца інакш. Нарадзілася яна 21 верасня, у свята Прачыстай, а гэта абазначае, што ў яе самая высокая Заступніца — усіх гаротных Радасць. А ў мастацкай традыцыі Захаду кветка *Iris* асацыюецца менавіта з Прачыстай Багародзіцай...

Хітраваў я раней, што ўдасца мне пазбегнуць пешага паломніцтва паміж Бельскам і Кнарыдамі. Гэтае ўдалося, але каб вярнуцца з Кнарыд у Бельск трэба мне было б чакаць дзве гадзіны аўтобуса, а гэта крышку больш, чым патрабуе памяркоўная вандроўка паміж гэтымі мясцовасцямі. Паміж імі пралягае краёвая дарога № 19, што злучае Беласток з Люблінам. На ёй салiднае асфальтавае палатно для аўтамашын, а пэўна будзе яшчэ саліднейшае, калі стане яна міжнароднай трасай Via Carpatia. Для пешахода, аднак, гэта пакуль што крос па прыдарожным бездарожжы, такая Via Dolorosa, Droga Krzyżowa. Бо і памінальных крыжоў крышку там назбіралася...







■ Тут спачылі згарэлыя астанкі



❖Тэкст і фота **Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

# Засталіся адно ўспаміны (13)

Вадзім Федарук стаў маім лепшым сябрам. Да кампаніі далучыўся Федзя Петручук. Наш «траісты саюз» доўжыўся па мае апошнія дні працы ў ВПК. Калі заязджалі ў Вітава з кінаперасоўкай у святочныя дні, дык сябры заходзілі ў машыну і я пускаў пласцінкі з савецкімі песнямі. А выбар мелі мы багаты. Хор Аляксандрава, Пятніцкага, Омскі народны хор, польскія вакальныя гіты. Ставіў я рэпрадуктар на машыну і слухала музыку ўсё сяло. Людзі абажалі песні. Спявалі дзяўчаты на вячорках, на лавачках пры вуліцы. Памятаю, што адной з папулярнейшых песень, якую і ў Кузаве спявалі, гэта была пра Колю-трактарыста (пачыналася словамі «Колосилась в поле рожь густая»). На Гайнаўшчыне і Бельшчыне, дзе мы заязджалі з кінаперасоўкай, найбольшую прысутнасць фіксавалі на савецкіх кінафільмах, асабліва на ваенных і любоўных камедыях. Хапіла на рэкламным афішы напісаць «ваенны» або «каляровы», а прысутнасць была гарантавана. А савецкі рэпертуар быў самы багаты, было з чаго выбіраць. З шасцідзясятых гадоў **запамяталіся мне** такія фільмы як: «Лёс чалавека» з Сяргеем Бандарчуком, «Ціхі Дон» з Пятром Глебавым і Элінай Быстрыцкай, «Васкрасенне» («Zmartwychwstanie») паводле рамана Талстога, ці «Анна Карэніна», «Салдаты» («W okopach Stalingradu»). З любоўных вялікай папулярнасцю карыстаўся фільм «Dwie rywalki» («Дело было в Пенькове») з Вячаславам Ціханавым, з якога запамяталася песня «Огней так много золотых». Не менш папулярнай, каляровай, камедыяй была «Два аблічча Наташы» з вядомай песняй «Ручнік» (пачыналася словамі *Рыдна мати моя*), ці беларускі ваенны (каляровы) фільм «Девочка ищет отца» («Lenka szuka ojca»). У Вітаве прыходзіла шмат людзей у кіно. Школьная зала была прызначана, як прыпамінаю, на пяцьдзясят пяць чалавек. Неаднойчы гледачоў прыходзіла звыш нормы. І была праблема, што рабіць «з лішкам». Кіраўнік заўжды рызыкаваў і браў адказнасць на свае плечы за парушэнне супрацьпажарнага закону. З кожнага сеанса, у білетнай кніжцы запісваліся нумары прададзеных білетаў, затым было вядома, колькі гледачоў знаходзіцца ў зале ў дадзены момант. Гэта патрэбна было для кантролю. Але кантралёраў не было і ўсё канчалася без клопатаў. Калі б пажарнікі або інспектары ВПК засеклі, кіраўніку пагражала пісьмовае пакаранне. У выпадку большай колькасці гледачоў, у сяле з малой залай, напрыклад, на кінафільмах «Zmartwychwstanie». «Winnetou» ці «Krzyżacy» вымушаны былі ставіць дадатковыя сеансы. Кожнай брыгадзе кіношнікаў залежала на выніках, бо ўдзельнічалі ў конкурсе па колькасці прыцягнутых гледачоў і грашовым прыбытку. Наша брыгада «BR-9» на васямнаццаць брыгад заваявала другое месца. Варта прыпомніць, што ў Вітава прыходзілі «кінаманы» з пушчанскіх вёсак — Пяскоў, Доўгага Броду, Круглага. Першым гледачом быў мой добры сябра Міхалоўскі. Знаёмства з ім доўжылася з канца пяцідзясятых гадоў, калі мы ўзначальвалі авангард у Павятовым праўленні Саюза вясковай моладзі. Прыгадваю семінар старшынь гурткоў СВМ у Белавежы ў студзені 1960 года. Прыемна было сустракацца з калегам на кінасеансах у Вітаве. Пасля таго, калі я ў 1969 годзе ўволіўся з ВПК і пачаў працаваць у Семяноўцы на перагрузачнай станцы, лёс згатаваў неспадзяваны сюрпрыз. Спаткаўся зноў з Вадзімам Федаруком. Ён працаваў грузчыкам на перавалцы, я ў канторы. Па-даўнейшаму сустракаліся мы з прыяцелем. Запрашаў я яго да сябе ў госці. Затым працавалі разам на станцыі ў Чаромсе — я ў канторы перадачы агентам, Вадзім — кандуктарам, а пры канцы службы павысілі яго на кіраўніка поезда. У 1995 годзе я падаўся на інвалідную пенсію. Нашы дарогі разышліся. Зараз мы чыгуначныя пенсіянеры, але кантактаў не парвалі. Апошнім разам наведаў я Вадзіма летам 2002 года. Не заспеў калегі. З жонкаю падаліся на грыбы. Але аб гэтым я ўжо пісаў у «Ніве». Чарговай вёскай па маршруце былі Чахі-Арлянскія.



■ Вадзім Федарук з жонкай

(працяг будзе)

Уладзімір СІДАРУК



Так павялося ў Беларусі, што ў многіх сферах жыцця беларуская мова зусім адсутнічае альбо яе прысутнасць там заўважыць практычна немагчыма. Адна з такіх галін — юрыспрудэнцыя. У беларускай краіне не так проста знайсці юрыста, які б здолеў размаўляць па-беларуску, не кажучы ўжо пра вядзенне спраў на беларускай мове. Тым не менш такія ўнікумы ў Беларусі сустракаюцца і, магчыма, дзякуючы ім беларуская мова яшчэ не знікла з юрыспрудэнцыі.

Сайт так званага юрыдычнага буціка VVK месціцца ў інтэрнэце па адрасе **http://vvk.by**. Вэб-старонка ўяўляе з сябе прэзентацыю справы двух маладых юрыстаў — Віталя Каляды і Вадзіма Дубіцкага. „Наш профіль — складаныя судовыя спрэчкі па гаспадарчых і цывільных справах, эканамічныя злачынствы", — апавяшчаюць юрысты „юрыдычнага буціка" на галоўнай старонцы сайта. Далей ідзе выключна самарэклама, у падачы якой, праўда, прысутнічае недарэчнасць. Так, у дзвюх рубрыках, якія пазначаны па-рознаму — „Навіны нашай каманды" і „Цікавосткі й нататкі" месціцца адзін і той жа тэкст: „Нашы кліенты — гэта нашы кліенты, а не кліенты нашых працадаўцаў. Таму мы заўсёды дбайна і ашчадна ставімся да стасункаў з кліентамі і нам важна, каб супраца была доўгатэрміновай, а кліент задаволены. Бо калі кліент задаволены — гэта новыя замовы і новыя рэкамендацыі", — распавядаецца там. Адметна, што ўсё напісанне на сайце не звычайная сённяшняя наркамаўка, а тарашкевіца. Гэта яшчэ больш вылучае беларускамоўных юрыстаў, якія, па ўсім відаць, лічаць, што дарэформенны правапіс больш прыдатны, каб прадставіць сябе для патэнцыйных кліентаў.

Пра тое, што такое „юрыдычны буцік" наведвальнік сайта можа даведацца, калі адкрые старонку „Юрыдычная дапамога". „Юрыдычны буцік — гэта невялікая і спецыялізаваная група адвакатаў і юрыстаў, якія вызначаюцца індывідуальным падыходам да кожнага кліента", — распавядаецца там. На той жа старонцы месціцца назвы падрубрык — юрыдычных спецыялізацый. Гэта „Судовыя спрэчкі і арбітраж", „Рэгістрацыя і ліквідацыя фірмаў", „Эканамічныя злачынствы", „Банкруцтва і рэструктурызацыя пазыкаў" і „Спартовае агентаванне". Праўда, выйсці на іх можна толькі, калі наводзіш „мышкай" на назву старонкі ўверсе. Найбольш цікавым з іх падаецца „Спартовае агентаванне", якім юрысты VVK могуць займацца нават за мяжой Беларусі. „Мы добра абазнаныя ў міжнародным спартовым праве й маем цесныя стасункі з футбольнымі агентамі: Лёндана, Польшчы, Швэцыі, Нігерыі, Камеруна, баўканскіх краінаў. Мы даем парады па спартовому заканадаўству спартоўцам а іх агентам і прадстаўнікам", — сцвярджаюць Віталь Каляда і Вадзім Дубіцкі.

На сайце месціцца і аналітычныя артыкулы, датычныя тых ці іншых галін права ці эканамічных сітуацый. Цікаўны карыстальнік знойдзе іх у рубрыцы „Матэрыялы". Абнаўляюцца яны не надта часта — прыкладна адзін раз на адзін-два месяцы.

Нягледзячы на тое, што сайт VVK цалкам беларускамоўны, з кліентамі ў юрыдычным буціку могуць паразмаўляць таксама на англійскай, польскай, французскай, сербахарвацкай, балгарскай і рускай мовах. Менавіта імі валодае Віталь Каляда.

Аляксандр ЯКІМЮК

## Дата з календара

Дата з календара
Дата з календара
Дата з календара
Дата з календара

Горкі лёс «Палына»



## 115 гадоў з дня нараджэння
# Віктара Вальтара

Беларускі літаратар і публіцыст Віктар Вальтар нарадзіўся 15 (28 па іншым стылі) ліпеня 1902 г. у горадзе Дзвінск (цяперашні Даўгаўпілс, Латвія). Паходзіў з сям'і краўца Бенядыкта Вальтара. Бацька добра разумеў патрэбу навучання і калі хлопцу споўнілася 9 гадоў, аддаў яго спачатку ў Першую мястовую пачатковую школу, а па сканчэнні яе — у Дзвінскую дзяржаўную рэальную вучэльню, дзе здольны юнак выявіў добрыя поспехі. У час Першай сусветнай вайны Віктар разам з сям'ёй быў у бежанстве. Вучыўся ў Харкаўскім рэальным вучылішчы, пасля вяртання на радзіму ў 1921 г. працягваў вучыцца ў расейскай гімназіі. У жніўні 1922 г. скончыў Беларускія дзяржаўныя аднагадовыя настаўніцкія курсы. Пры падтрымцы беларускай дыяспары (найперш Кастуся Езавітава і Сяргея Сахарава) стаў стыпендыятам чэшскага ўрада і трапіў у Прагу, дзе паступіў на каморніцкі факультэт Чэшскага вышэйшага тэхнікума. Праз тры гады захварэў на сухоты і, не скончыўшы вучобы, вярнуўся на радзіму.

Як пісьменнік Віктар Вальтар дэбютаваў у 1923 г. нарысам „Аднабочнікі", які пад псеўданімам Янка Палын быў надрукаваны ў ковенскім часопісе „Крывіч" (№№ 4, 5). У 1924 г. у пражскай газеце „Студэнцкая думка" апублікаваў абразок „Песня гладыятараў". Быў актыўным супрацоўнікам газеты „Голас беларуса", апублікаваў вершы ў калектыўным зборніку „Першы крок" (Рыга 1926), альманаху „Замежная Беларусь", часопісах „Родныя гоні", „Наша доля" і „Новы шлях". У 1930 г. газета „Наша доля" апублікавала яго апавяданне „З-за сена", а ў 1932 г. пад назваю „Леснікова сена" яно выйшла асобнаю кнігай у Рызе. Пісаў Вальтар вершы, апавяданні, пакінуў не друкаваны пры жыцці вялікі раман „Роджаны пад Сатурнам", у якім апісвае жыццё беларускай эміграцыі і студэнцтва ў Празе. Напісаны ў 1920 гг. раман быў апублікаваны толькі ў 1991-1992 гг. у газеце „Голас Радзімы".

З 1926 г. Віктар Вальтар працаваў у беларускіх школах Латвіі, спачатку ў Плейках Пустынскае воласці, затым у Дзвінску ў мястовай беларускай школе, потым у Рызе ў Дадатковай беларускай вячэрняй школе, якой кіруе некалькі месяцаў у 1930 годзе і, нарэшце, зноў выязджае на вёску ў Келаўскую школу. За час гэтай працы па школах хвароба рабіла сваю справу і ўсё больш развівалася. Цяжка было хвораму настаўніку працаваць у прымітыўных умовах беларускай вясковай школы. Неўзабаве Віктар Вальтар апынуўся ў настаўніцкім санаторыі ў Інчукалне. Трохі падмацаваўшы сваё здароўе, ён перабраўся на працу ў горад, але тут аказалася працаваць яшчэ цяжэй, асабліва адбілася на яганым здароўі праца ў 1930 годзе ў Рыжскай вячэрняй дадатковай школе, якая, можна сказаць, і зламала яго канчаткова. Выезд на вёску ўжо не ўратаваў Вальтара і праз некалькі месяцаў яго не стала.

Пра ахвярнасць беларускага настаўніка яскрава сведчыць дакументальны ўспамін яго калегі, настаўніка А. Барткевіча з Дзвінска: „У 1931 годзе 20 сакавіка ён захварэў на запаленне нырак. Нягледзячы на цяжкую хваробу, ён не кідаў працы ў школе. У працягу трох дзён ён не мог зняць боты, бо распухлі ногі, аднак у школу хадзіць не кінуў, і толькі 2 красавіка адважыўся выехаць са школы ў Дзвінск, дзе зараз жа адвезлі яго ў бальніцу Чырвонага Крыжа".

Памёр Віктар Вальтар 4 красавіка 1931 г. у шпіталі Чырвонага крыжа і быў пахаваны ў родным Дзвінску на каталіцкіх могілках.

Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ

# PROGRAM

Jubileuszowe

XV Białowieskie Integracje Artystyczne – „Peretocze 2017"

**Białowieża 28 – 29.07.2017 r.**

28 LIPCA – PIĄTEK

**godz. 17.00** – „Peretocze" zaprasza - „Bryczkowy rekonesans artystyczny"

**godz. 18.00** - Hejnały puszczańskie i otwarcie Festiwalu

KONCERTUJĄ:

- **Studio folkl. Białorusinów Podlasia „Żemerwa"** – Studziwody
- **Zespół folklorystyczny „Tonieżanki"** –Ținież, Białoruś
- **Tatarski Zespół „Buńczuk"** – Białystok, Polska
- **Zespół „Chutar"** – Gródek, Polska
- **Zespół Państw.Uniwersyt. Białorusi „Wałaczobniki"** – Mińsk
- **Narodowa Kapela Litwy „Sutaras"** – Wilno
- **Zespół Państw. Filharm. Białorusi „Kupalinka"** - Mińsk

29 LIPCA – SOBOTA

**godz. 17.00** – „Peretocze" zaprasza - „Bryczkowy rekonesans artystyczny"

**godz. 18.00** - Hejnały puszczańskie

KONCERTUJĄ:

- **Zespół „Ruczajok"** – Białowieża, Polska
- **Góralski Zespół „Góralska Hora"** – Szczyrk, Polska
- **Laureat Festiw. im. Okudżawy - Jan Siebieszuk** – Hajnówka
- **Zespół „Świtanak"** – Białystok, Polska
- **Zespół Tańca Ludowego „Czeremosz"** – Węgorzewo, Polska
- **Cygański Zespół „Rada"** – Grodno, Białoruś
- **Klezmerski Zespół „Klezmafour"** – Lublin, Polska

❖ UWAGA: *Kolejność prezentacji zespołów może ulec zmianie.*

Zapraszamy Wstęp wolny

# Siabrouskaja Biasieda

## Сяброўская Бяседа

GRÓDEK - BORYK 29 LIPCA 2017, GODZ. 17[00]

ГАРАДОК – БАРЫК 29 ЛІПЕНЯ 2017, 17[00] ГАДЗІНА

Wystąpią największe gwiazdy sceny białoruskiej:

Cwiecień

Spadczyna

Kupalinka

Prymaki

Выступяць вялікія зоркі беларускай сцэны:

Цвецень

Спадчына

Купалінка

Прымакі

# У экстрэмальных сітуацыях

Час канікул з'яўляецца нагодай для купання. Штогадова здараюцца трагедыі на вадзе. Напрыклад, у 2003 годзе да канца ліпеня ўтапілася ў цэлай Польшчы 315 асоб. Трэба быць разважлівым, але і так трагедый не мінаваць.

Радуе факт, што навокал нас знаходзяцца людзі, якія ў крытычных момантах захоўваюць спакой і зробяць усё для захавання жыцця іншага чалавека. У 1996 годзе ў Орлі так зрабілі сужонства Аліна і Яўген Петручукі ды ейны 60-гадовы бацька Мікалай Якімовіч — ўратавалі на Арлянцы жыццё 11-гадоваму хлапчуку (пісала пра гэта «Ніва» ад 30.03. 1997 г.: «Арлянскія звычайныя незвычайныя»). 7 ліпеня 1999 года трое жыхароў Орлі — Славамір Сахарэвіч, Анджэй Ахрыцэвіч і Ежы Жабінскі — якія прыехалі на раку Бобру, выратавалі 15-гадовую дзяўчынку; на жаль, яе на год старэйшай сястры, якая кінулася ёй дапамагаць, не ўдалося знайсці пад вадою (было ў «Ніве» ад 01.08.1999 года: «Арлянскія ратавальнікі»). Мы павінны быць заўсёды ўважлівымі на прыродзе і помніць ды пісаць пра тых, якія геройчна дапамагаюць іншаму чалавеку.

Зусім нядаўна, пры нагодзе працы над кнігай-альбомам, згаварыўся я з адным арлянцам, вудзільшчыкам, які ў мінулым таксама аказаўся незвычайным. Гэта **Міхал Тхажэўскі (на здымку)**, 1944 года нараджэння; ён успомніў:

— Здарылася гэта летам 1966 ці 1967 года. Я тады толькі што адслужыў вайсковы абавязак. Вяртаўся дадому з працы ў бетанярні, ішоў «Пакатоўшчынай» (лугі над Арлянкай з боку Кашалёў). Пакупаўся ў Арлянцы. Запруда была застаўлена, узровень вады высокі. Пабачыў уводдалі моладзь і хацеў прайсці міма, але пачуў нейкую мітусню, насупраць калёніі Гаворкі. А гэта дзве наццацігадовыя сястры ішлі сабе па мелкім дне ракі і раптам сышлі пад ваду; бо там яма, а яны пра яе не ведалі. І адна другую пачала ўжо тапіць, ухапіла за косы, абедзве топяцца! Я хутка распрануўся і нырнуў. Адапхнуў адну, што ўмела плаваць. А другую хапіў пад вадою, а яна цяжкая. Выцягнуў на другі бераг, дзе было бліжэй. Быў там плот, пералажыў яе цераз жэрдку агароджы, вада з яе вылілася і яна апрытомнела. Пасля хацеў яе перавесці па вадзе на другі бераг, а яна не хоча ісці, баіцца. То перанёс яе. Падзякавалі мне. Запрасілі да сям'і. А тыя сямейнікі са знаёмымі сядзелі недзе далей на пледзе і занятыя сабою нічога не бачылі. Дзяўчынкі прыехалі на канікулы да мясцовага доктара Раўба.

Кожны чалавек у экстрэмальных абставінах павінен дапамагаць другому чалавеку. Гэта заўсёды хвалюючыя перажыванні, якія трывала застаюцца ў памяці.

❖Тэкст і фота **Міхала МІНЦЭВІЧА**

# Адгаданка

**Шыфраграма**

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — беларускую пагаворку.

1. абрэвіятура міжнароднай арганізацыі з Саветам бяспекі = 17 _ 18 _ 1 _;
2. „егіпецкая" опера Вердзі = 2 _ 3 _ 12 _ 9 _;
3. напрыклад „Лебядзінае возера" Чайкоўскага = 22 _ 21 _ 14 _ 15 _ 16 _;
4. свойская паўднёвая рагатая жывёла з гарбом (*Bos taurus indicus*) = 25 _ 23 _ 10 _ 13 _;
5. урачысты верш = 28 _ 24 _ 20 _;
6. вясковы будзільнік = 19 _ 11 _ 27 _ 26 _ 31 _ 32 _;
7. гразе-каменны горны паток = 29 _ 30 _ 4 _ 5 _;
8. здраднік, подлы чалавек = 6 _ 7 _ 8 _.

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1 | 2 | | 3 | 4 | 5 | 6 |
| 7 | 8 | | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 |
| | | | | 14 | 15 | 16 | 17 |
| | | | | | 18 | 19 | 20 |
| | | 21 | 22 | 23 | 24 | 25 | 26 |
| | | 27 | 28 | 29 | 30 | 31 | 32 |

**(ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 28 нумара**

Кіпенне, медзь, міліцыянер, космас, доўг, піжама, цюлень, перапёлка, Рось, следапыт.

Рашэнне: **Ліпень косіць і жне, доўга спаць не дае**.

Кніжную ўзнагароду высылаем **Анне Дэм'янюк** з Бельска-Падляшскага.

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA" oraz „GARMOND PRESS", siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA", „KOLPORTER", „RUCH" — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy" — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach 7[00] – 18[00].
**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje:**
**Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 1 000 egz.

# 30.07 — 05.08

**(22.03. — 20.04.)** Удасца амаль усё ва ўсіх галінах жыцця. Удала аформіш справы, якія не давалі табе спаць у апошнія месяцы. Добра заінвестуеш грошы. Але можаш быць раздражнены і мець кепскі настрой. Пастарайся запаволіць тэмп, сцішыцца, адпачывай. Хтосьці верне табе грошы, на што ўжо ты хіба перастаў разлічваць.

**(21.04. — 21.05.)** Можаш разлічваць на шчасце ў лічбавых гульнях. Поспехі на мастацкім полі. Добры час на пачатак ачышчальнай дыеты. Хаця можаш адчуваць недахоп сэнсу ў некаторых дзеяннях, якіх вынікі не будуць такія, як ты спадзяваўся. Павер у сябе і ў свае магчымасці, падыдзі да праблем менш руцінна.

**(22.05. — 22.06.)** Вельмі ўдалы час. Калі запрануюць табе паездку за мяжу, гэта прынясе табе дадатковыя даходы. Будзь лаяльны і трымай сакрэты пад замком! Не адмаўляйся ад дапамогі, і сам не саромейся папрасіць патрэбнай падтрымкі. Самотны Блізнюк можа сустрэць кагосьці, хто прынясе ў яго жыццё новы сэнс; магчымы вянец! Пільнуй свае дакументы. 04.08. — вельмі шчаслівы дзень.

**(23.06. — 23.07.)** Могуць да цябе прыплысці грошы з зусім нечаканага боку — можа, уваскрэсіш свой забыты талент? Прабудзі ў сабе мастака, а твая крэатыўнасць прыспешыць поспехі. Але не будзь нецярплівы, неўзабаве пачнеш пажынаць багаты плён сваіх старанняў. Але памятай — не мусіш быць заўжды першым і найлепшым. Не зашкодзіць крыху шаленства і рамантызму. Цяпер ты магніт для другога полу! У прафесійным плане не дай сябе падмануць ліслівцам.

**(24.07. — 23.08.)** Адчуеш што заслугоўваеш на найлепшае і прыйшоў час рэалізацыі запаветных мар. Карысці можа прынесці гульня на латарэі. Можа, купіш сабе штосьці шыкоўнае? Магчымая таксама замена кватэры ці інвестыцыя ў нерухомасці. Але на першы план выйдуць сардэчныя справы. Каханне дадасць табе крылаў, і не пабаішся ніякіх перашкод. Прыгожыя падарожжы, асабліва ў пары.

**(24.08. — 23.09.)** Прынясуць карысці справы, якія апіраюцца на тваёй прыроднай трываласці і сумленнасці. Старайся бачыць людзей і справы такімі, якімі яны ёсць сапраўды. Не пазычай большых грошай. Будуць імпульсы да змен і дзеяння, але будзь цярплівым пры важных рашэннях. Слухай рацыі іншых у сям'і, можна будзе пагасціць канфлікт. Адпачывай актыўна, бо энергія будзе цябе проста распіраць.

**(24.09. — 23.10.)** Энергія. Добры настрой. Не пазбягай фізічнай актыўнасці. Дасі рады хранічным захворванням. Пазітыўны ўплыў зорак на твае перакананні і погляды на свет. Засяродзься на тым, што ўжо дасягнуў. Не бяры ўсяго на свае плечы, умела распараджайся часам, знайдзі моманты для адпачынку. Не адмаўляйся ад сваіх мар. Памятай, што прайграная бітва гэта не прайграная вайна! Часам трэба штосьці страціць, каб здабыць іншае. Цудоўныя моманты з каханай асобай.

**(24.10. — 22.11.)** Адчуеш прыліў новых сіл. Невычэрпная энергія! Будзеш адчуваць сябе выдатна і ззяць красою. Справішся з выклікамі лёсу і пераможаш свае слабасці. Здзяйсняй самыя запаветныя мары. І зразумей, што бывае так, што часам не маеш уплыву на ход падзей. Бывае, трэба паддацца лёсу і чакаць. Пастарайся таксама дараваць тым, хто шчыра просіць прабачэння.

**(23.11. — 22.12.)** Не падвядуць цябе інтуіцыя і прадчуванні, гэта яны памогуць табе развеяць сумненні. Будзь асцярожны пры пакупках, каб не раскідацца грашыма і не накупіць непатрэбшчыны. Спраўна пойдуць прафесійныя справы, дзякуючы таксама тваёй памяркоўнасці, розуму і практыцызму. Неспадзяваны візіт можа адмяніць твой лёс. Мерапрыемствы пачнуць прыносіць прыбытак. 2.08. — вельмі шчаслівы дзень.

**(23.12. — 20.01.)** Вялікая падтрымка Казярогам вольных прафесій і мастакам. Але пільнуйся ў мностве спраў для афармлення і правілах. Не вырашай стратэгічных спраў, калі б яны спрачаліся з логікай і здаровым розумам. У жыцці гармонія і спакой, новыя кантакты і знаёмствы ў інтарэсах. Вольныя Казярогі могуць перажыць шалёнае каханне з будучыняй! Адпачывай над вадой.

**(21.01. — 19.02.)** Удадуцца юрыдычныя і службовыя справы, парабі ўсе трансакцыі. Прыцягнеш увагу тых, на кім табе залежыць. У час падарожжа можаш сур'ёзна пазнаёміцца з кімсьці цікавым, сталым і нябедным, можа чужаземцам. Спакойны і гарманічны час, асабліва ў парах. Не бяры зашмат абавязкаў на сябе, будзь разважны і памяркоўны на працы. Барані свае перакананні, рэалізуй мары, ідзі ўперад!

**(20.02. — 21.03.)** Пазбягай нефармалізаваных дамоў. Не пераінвестуй і не дай сябе ўцягнуць у вялікі крэдыт ды не пазычай іншым. Усе юрыдычныя справы аформі да верасня. Едзь у прапанаванае падарожжа. Важныя дом і сям'я. У старых парах можа наступіць час спробы; адважна паразмаўляйце. Жыві згодна з самім сабой і натурай. Павер, што можаш усё, калі толькі захочаш!

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

***Дарагія мае Землякі!***

*Упершыню сіняе неба, сонца і казачнае возера я ўбачыў у сяле Нобель. Там некалі гойдалася мая калыска, там я ў сваім маленстве пачуў і палюбіў мову нэнькі Украіны.*

*Цяпер, як не дзіўна, мы апынуліся ў розных, суседніх, але родных краінах. Час у нас складаны, цяжкі, а нават горкі. Але ўсё мінае, мінуць і нашы нягоды.*

*Жадаю вам усім, мае блізкія і родныя Земляцкі, мужнасці, цярпення, веры ў лепшае, святлейшае заўтра, а яно залежыць ад кожнага з нас.*

*Здароўя вам, ладу ў вашым доме, спакою душы вашай, шчасця вам, дзецям, унукам і праўнукам вашым!*

***Сяргей Грахоўскі***

*11 студзень, Менск 1993 г.*

* * *

Калі Сяргей Грахоўскі пісаў свой апошні ліст землякам з Нобеля, ён не спадзяваўся, што на стагоддзе яго нараджэння на сцяне вясковага клуба ў яго гонар адкрыюць мемарыяльную дошку. Падзею ўдастоілі вядомыя літаратары з Беларусі. На здымках, якія пабачу ў школьным краязнаўчым музеі, распазнаю двух мабільных сяброў-паэтаў — Леаніда Дранько-Майсюка і Эдуарда Акуліна. Падарожжа ў прыхаваны ад свету пасёлак для гэтых цудоўных непаседаў — звычайны выклік і, здаецца, сентыментальнае ў сэнсе дыялектаў падарожжа. Яны, беларускія палешукі, не патрабуюць тут перакладчыка. Праўда, беларусы і ўкраінцы абыходзяцца без перакладчыкаў. Але ў Нобелі мова такая, што не кожны ўкраінец яе зразумее. Калі прыраўняць яе да падляшскіх узораў, дык яна напамінае жывое спалучэнне гаворак ад Саколкі і Чаромхі. Напрыклад, у назоўніках множнага ліку выступае канчатак *-э*: *грыбэ, гарбузэ, трактарэ*... Фатограф і падарожнік Ісак Сербаў жыхароў Нобеля прыпісваў да палешукоў „сакуноў”, а гэта таму, што іх дзеясловы ў прошлым часе канчаліся на „-со”: *находывсо, напівсо, надівсо*... З другога боку кожны тут скажа *ходыты, робыты, дывытыся*...

Нобельскія старажылкі ў сваіх аповедах часта гаварылі такія слоўцы, як *цапэр, гэты, гэнво*...

Занатоўкі пра дзіўную ўкраінска-беларускую мову знаходзім у лісце Сяргея Грахоўскага ад 1984 года.

* * *

Свой першы і апошні афіцыйны візіт у родны Нобель паэт здзейсніў у 1984 годзе. Год раней ён атрымаў прэстыжнае званне работніка культуры БССР. У тым жа 1983 годзе Сяргей Грахоўскі стаў лаўрэатам Літаратурнай прэміі Саюза пісьменнікаў БССР імя Аркадзя Куляшова за зборнік „Гнёзды”. Увесь гэты прэстыж і славу паэт прывёз з сабой у родны кут. У Нобелі таксама добра падрыхтаваліся, выглядалі міфічнага земляка...

— Я памятаю гэтую незвычайную сустрэчу, — успамінае Галя Багдановіч, — а найбольш запаматалася як ён *дужэ гарно* чытаў з памяці вершы. У зале, дзе сабраліся ўсе вучні і настаўнікі, была такая засяроджанасць, што не расказаць. Ён чытаў і расказваў пра сябе, а нам цяжка было паверыць, што гэта ўсё адбываецца на яве. Бо да гэтай пары прыгожую літаратуру мы праходзілі па кніжках. А тут прыехалі жывыя паэты, ды выступаюць перад намі!

Сам Грахоўскі ў лісце, які напісаў на адрас школы пасля гэтага падарожжа, дзякуе за цёплыя сустрэчы з вучнямі, працаўнікамі калгаса, старажыламі. Падзею ілюструюць чорна-белыя здымкі, якія захоўваюцца ў школьным музеі. У Нобелі мяркуюць, што верш „Пачатак”, які ўзнік у 1965 годзе, інспіраваны паўсакрэтным падарожжам, якое паэт здзейсніў чатыры гады раней на параплаве.

І хоць верш датычыць Глуска, адкуль родам маці, паэт намякае на таемнае месца, куды ляціць яго душа:



Вучні і настаўнікі, Нобель 1.09.2016 г.

# У палескай глыбінцы (92)



Сяргей Грахоўскі выступае перад школьнікамі, Нобель 1984



Галя Багдановіч у музеі

*Дзе каля цёмнае вады*
*На вузенькім пясчаным мысе,*
*Мае дзіцячыя сляды*
*Дасюль магчыма засталіся.*

*Я іх ніколі не знайду,*
*Не адшукаю хісткай кладкі,*
*А ўсё ж лячу к свайму гнязду,*
*К свайму адзінаму пачатку.*

* * *

Сапраўды, у 1984 годзе паэт прыляцеў на самалёце ў Пінск, адкуль намерыўся дабірацца ў Нобель. Аднак той параплаў, на якім пад заслонай ночы дабіраўся да роднага гнязда ў 1961 годзе, ужо не працаваў. Паэт адшукаў на перыферыі горада прыпынак, адкуль ад'язджаў аўтобус у Нобель. Разам ехалі дзяўчаты з моднымі прычоскамі, увесь пераход у аўтобусе быў застаўлены сумкамі і мяшэчкамі. Грахоўскі прыкмеціў, што людзі ў аўтобусе размаўляюць на мілагучнай украінска-беларускай мове. Дадаў, што назовы мясцін Нівель, Кутэнь, Локніца для яго знаёмыя і як родныя. Але найбольшы сюрпрыз чакаў на месцы. Калі ўжо дабраўся па трасучай брукаванцы ў Нобель, на месцы чакаў яго сардэчны сябра Пятро Карасюк. Карасюк, сам родам з Высоцка над Гарынню, быў ужо прызнаным ва Украіне літаратарам-гумарыстам. Ад радасці паэты кінуліся ў абдымкі. Пасля разам выступілі перад школьнікамі і калгаснікамі. Абгаварылі ўсё на свеце. Настрой падымала веліч мясцовай прыроды. Паэтаў пасялілі ў школьным інтэрнаце, адкуль распасціраўся від на чароўнае возера, над якім кружылі дзікія птушкі. Спрыяла таксама надвор'е:

— *Пачатак верасня, а жара такая, як у лета*, — пісаў у сваім лісце Сяргей Грахоўскі, які сваім пявучым голасам чытала Галя Багдановіч. Гэта ўсё ашаламіла мяне. Паметка пра надвор'е прамовіла як гістарычная паслядоўнасць — падобная аўра панавала і ў першы начны візіт паэта.

— І сёння пачатак верасня, а жара як летам, — дадала я.

Звестка пра падобнае надвор'е, як не дзіўна, неяк парадніла, наблізіла з родным Падляшшам. Быццам прарвалася рэха з далёкіх, архаічных часоў. Я не ведала, што яшчэ ў гэты дзень пачую пра блізкія і сардэчныя тэмы. У гэты раз пра яцвягаў і легендарнага ваяра Скоманда, якія наехалі на княжы горад Нэбель у другой палове XIII стагоддзя.

(працяг будзе)

**Фота і тэкст Ганны КАНДРАЦЮК**

ISSN 0546-1960 31